

З КАЛЯДАМІ!

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

20 снежня 2019 года №51 (1286) 18+



# Будаўнікі зруйнавалі 700-гадовы помнік археалогіі ў Гальшанах

Падчас добраўпарадкавання пляцоўкі перад Гальшанскім замкам пашкодзілі старадаўні могільнік

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.







## Не хавайце пачуццяў і адкрывайце сэрцы! У рэдакцыі «РГ» абмеркавалі найлепшыя фота 2019 года

старонка 19

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





# Будаўнікі зруйнавалі 700-гадовы помнік археалогіі ў Гальшанах

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Пляцоўку перад Гальшанскім замкам вырашылі добраўпарадкаваць, але нешта пайшло не так.

**Каля Гальшанскага замка падчас будаўнічых работ знайшлі могільнік 700-гадовай даўніны. Археолагі кажуць, што будаўнікі пашкодзілі археалагічныя пласты не толькі могільніка, але і замка. Працу па добраўпарадкаванні тэрыторыі хочуць завяршыць напрыканцы снежня, аднак гісторыкі плануюць паўнавартасныя раскопкі пасля Новага года.**

Першым забіў трывогу экс-супрацоўнік Інстытута гісторыі **Яўген Уласавец**. Знаёмы скінуў яму відэаролік «Ашмянскага весніка», дзе паказалі працы каля Гальшанскага замка. Пра добраўпарадкаванне Уласавец не ведаў і падумаў, што вядзецца яно з парушэннямі. Ён патэлефанаваў калегу, які займаецца рэгіёнам, аднак той пра будаўнічыя работы не чуў.

Пасля Яўген зрабіў яшчэ адзін званок у Інстытут гісторыі НАН. Там таксама нічога не ведалі пра добраўпарадкаванне тэрыторыі каля замка і ніхто не запытваў Адкрыты ліст.

Уласавец тлумачыць, што пра могільнік гісторыкі ведалі раней. Пра яго існаванне распавядалі сучаснікі ў 19 стагоддзі.

– Мы хацелі шукаць могільнік, але перадумалі. Трэба было выканаць вялікі аб'ём работы, каб яго выявіць. Могільнікі сапраўды цяжка знайсці, – кажа Яўген.

У Гальшаны Яўген разам з археолагам Інстытута гісторыі **Паўлам Кенько** прыехалі на наступны дзень – 13 снежня.

– Адразу ўбачылі факт парушэння культурнага пласта. Сталі хадзіць, убачылі чалавечыя косткі. Разумееце, цяпер кіпіш накіраваны на могільнік, але там парушаны і культурны пласт замка. Гэта абуральны факт!

Па словах Яўгена, будаўнікі ніяк не рэагавалі на археалагічныя знаходкі. Ён прывёў прыклад выпадку ў Жупранах, калі будаўнікі працавалі, а гісторыкі на тым месцы назбіралі 20 мяшкоў костак.

– А ім – усё роўна. Іх справа капаць, а не абмяркоўваць.

### «Паміж Інстытутам гісторыі і райвыканкамам ёсць дамоўленасць»

Уласавец і Кінько працавалі 13 снежня ўвесь дзень: заклалі шурф, зачысцілі косткі адной жанчыны, пачалі зачышчаць астанкі другой, але не паспелі з-за цемры. Паралельна звязаліся з Інстытутам гісторыі, каб там рыхтавалі дакументацыю на археалагічныя раскопкі. У нядзелю дакапалі шурф і сабралі знаходкі.

Уласавец пацвердзіў, што Павел Кінько зноў збіраецца ў Гальшаны. Цяпер усё ўпіраецца ў тое, што ў Інстытуце гісторыі чакаюць лісты ад Ашмянскага райвыканкама.

– Паміж Інстытутам гісторыі НАН і райвыканкамам ёсць вусная дамоўленасць. Яны прызналі віну і цяпер павінны выслаць дагавор на падпісанне аб правядзенні археалагічных работ.

### Што знайшлі?

Могільнік датуецца 13-14 стагоддзямі. Там знайшлі жаночыя ўпрыгажэнні – тыповы набор для заможнай жыхаркі ліцвінскіх земель. У адной жанчыны быў сярэбраны пярсцёнак з каменьчыкам і сярэбраныя бляшкі. У другой былі два пярсцёнкі – сярэбраны і бронзавы, камплект бляшак, падвеска бронзавага ключыка, нож у скураных ножнах з меддзю.

У адвалах знайшлі два крэміраваныя мячы, грыўню, сярэбраны пярсцёнак. Іх археолагі датавалі 14 стагоддзем. Уласавец адзначае, што традыцыя крэмацыі была распаўсюджаная ў больш ранні перыяд.

Каля Гальшанскага замка спальвалі нябожчыкаў па абрадзе крэмацыі, там жа былі могілкі, дзе іх хавалі. Пасля прыняцця хрысціянства на тым месцы зноў сталі хаваць. Пасля крэмацыі нябожчыкаў хавалі пад дзёрнам, а ў хрысціянскі перыяд закопвалі глыбей – на 60-100 сантыметраў.

– Крэмацыйны пласт перакопвалі і клалі новых нябожчыкаў. Прасцей сказаць, усё змешвалі. У больш познія пахаванні маглі трапіць рэчы больш ранніх пахаванняў. Калі бульдозерам зносілі, то знеслі, у першую чаргу, такі пласт.

### «Не капаем, а займаемся добраўпарадкаваннем»

Карэспандэнты «РГ» наведаліся 17 снежня ў Гальшаны, каб высветліць, што адбываецца на тэрыторыі каля замка.

На дарозе і на пляцоўцы перад фасадам замка стаяла будаўнічая тэхніка, шмат пліткі на паддонах, а будаўнікі працягваюць працаваць. Мы высветлілі, што на добраўпарадкаванне тэрыторыі прывезлі ў той дзень новую брыгаду рабочых.

Галоўны майстар прадставіўся **Іванам**, але адмовіўся называць прозвішча. Пра могільнік майстар таксама ведае, але пераконвае, што на гэтым месцы будоўля была ўсё жыццё. Ён сказаў, што цяпер будаўнічыя работы спынілі, але брыгады працуюць над добраўпарадкаваннем тэрыторыі.

– Робім усё, каб было месца для паркоўкі машын і аўтобусаў, каб турысты маглі свабодна наведваць замак.

Іван распавёў, што арганізацыя «Граніт+» рабіла рэканструкцыю вежы. Аднак і яна яшчэ не завершаная: там будуць ставіць лесвіцу, рабіць роспісы ўнутры.

Майстар лічыць, рэканструкцыю старых пабудоў, і не толькі Гальшанскага замка, трэба было даўно рабіць:

– Але як-небудзь акуратна. А то ўзялі кусок, зрабілі і забылі.

### У Гальшанах даведаліся пра могільнік праз інтэрнэт

У мясцовай бібліятэцы жанчыны абмяркоўвалі знаходку могільніка. Мясцовая жыхарка Таццяна добра ведае археолагаў, якія штогод прыязджаюць у Гальшаны. Па яе словах, пра могільнік і знаходкі костак даведаліся дзякуючы інтэрнэту. Гальшанскі замак знаходзіцца побач з самім мястэчкам, да яго можна дайсці пешшу за 15 хвілін з цэнтра.

Старшыня сельвыканкама **Вайцех Коўзан** таксама даведаўся пра могільнік праз інтэрнэт. Археолагаў ён ведае, але яны да яго не заходзілі. Старшыня падтрымлівае ідэю кансервацыі Гальшанскага замка. Коўзан называе нядобрасумленных турыстаў адной з прычын, чаму трэба рабіць кансервацыю.

– Руіны замка небяспечныя, таму маглі быць няшчасныя выпадкі, але нічога не здарылася. Некаторыя на машынах заязджаюць аж да гістарычных аб'ектаў. Навошта? Што, так цяжка прайсці па прыродзе, шышкі сасновыя пазбіраць па дарозе?

Коўзан кажа, што пасля кансервацыі і добраўпарадкавання каля Гальшанскага замка для рэгіёна ўзмоцніцца турыстычны патэнцыял.

– Гальшаны замыкаюць турыстычны маршрут, таму паток беларускіх і замежных турыстаў вялікі. Замежнікі прыязджаюць да нас з Літвы і Польшчы.

**– Адкуль грошы на добраўпарадкаванне тэрыторыі?**

– Гэта наш і абласны бюджэт. Грошы даваў і Прэзідэнцкі фонд.

Вайцех Коўзан не ўпэўнены, калі завершацца працы па добраўпарадкаванні, называе канец снежня. Аб гэтым сведчыць шыльда з пашпартам аб'екта. Заказчыкам з'яўляецца ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Ашмянаў. Работы выконвае кампанія «Граніт+».

Але Яўген Уласавец распавёў «РГ», што Павел Кінько збіраецца ў 2020 годзе на тэрыторыі могільніку правесці паўнавартасныя археалагічныя раскопкі.

**Настасся УТКІНА,**
**Ігар ПАЛЫНСКІ.**




Фота rovar.info.

Так выглядаюць інфармацыйныя слупкі.

# Распрацавалі роварны маршрут уздоўж Віліі

ВІЛЕЙКА

**Велаактывісты з Вілейкі распрацавалі і маркіравалі прыгарадны роварны маршрут. Ён атрымаў назву «А над Віліяй ракой…».**

Маршрут пачынаецца ў цэнтры горада, ідзе ўздоўж Віліі і дэндрапарку – па ўлюбёных многімі гараджанамі месцах.

Задумка належыць актывістам грамадскага аб'яднання «ЗОВіК». Іх мэтай было стварыць маршрут для людзей, якія рэдка катаюцца на ровары ці толькі знаёмяцца з горадам. Дыстанцыя невялікая – пяць кіламетраў, таму пераадолець яе лёгка і аднаму, і з дзецьмі. Маршрут разлічаны на некалькі гадзін, калі па дарозе рабіць прыпынкі, каб вывучыць наваколле.

Стварыць маршрут атрымалася дзякуючы ўдзелу актывістаў у конкурсе на падтрымку дзейнасці на роварную тэматыку. Дадзеныя мерапрыемствы праводзяцца ў рамках праекта «Гарадскі веларух у Беларусі», падтрыманага Еўрапейскім саюзам.

Па ходзе маршруту ўстаноўлены слупкі маршрутнага арыентавання, якія зроблены з дрэва. Яны больш гарманічна ўпісваюцца ў прыроду, чым металічныя аналагі. Чакаецца, што яны будуць і вандалаўстойлівымі.

На слупках размешчаная інфармацыя аб тым, куды рухацца далей, і прыведзеная мінікарта веламаршруту. Усяго было ўстаноўлена 24 слупкі маршрутнага арыентавання.

Яшчэ віляйчане распрацавалі дызайн чатырох інфармацыйных стэндаў, якія таксама ўсталявалі ў рамках праекта.

**Паводле сайта ГА «ЗОВіК».**

## У Маладзечне пачнуць выпускаць чыгуначныя грузавыя кантэйнеры

МАЛАДЗЕЧНА

ААТ «Белаграмаш» будзе рэалізоўваць у Маладзечне свой інвестыцыйны праект на тэрыторыі завода металаканструкцый.

Па інвестпраекце «Стварэнне вытворчасці чыгуначных кантэйнераў у СЭЗ Мінск» у Маладзечне будуць вырабляць спецыялізаваныя стальныя кантэйнеры для транспартавання канкрэтных грузаў.

Інавацыйныя ўласцівасці прадукцыі дадуць магчымасць павысіць хуткасць пагрузкі і разгрузкі тавараў: новыя кантэйнеры можна будзе падымаць з аднаго віду транспарту на іншы, напрыклад, з чыгуначнай платформы на аўтамабільную ці наадварот. Акрамя таго, знізяцца выдаткі на ўпакоўку і павялічыцца бяспека перавозкі грузаў.

Асноўным заказчыкам кантэйнераў з'яўляецца замежная кампанія, таму новая вытворчасць будзе максімальна экспартна арыентаванай.

Створаць не менш за 130 працоўных месцаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Беларусі плануюць павялічыць базавую

У Беларусі хочуць павялічыць базавую велічыню да 27 рублёў. Мінфін падрыхтаваў адпаведную пастанову ўрада, цяпер дакумент знаходзіцца на разглядзе ў Саўміне

Павелічэнне базавай велічыні, як чакаецца, адбудзецца ад 1 студзеня 2020 года. У апошні раз яе павышалі ў студзені 2019 года (з 24,5 да 25,5 рубля), а да гэтага – у студзені 2018-га (з 23 да 24,5 рубля).

З ростам базавай павялічваюцца як некаторыя выплаты (дапамогі, стыпендыі), так і штрафы.

Базавая велічыня – гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных даброт.

**Паводле БелТА.**

## Астравецкія булкі перамаглі ў рэспубліканскім конкурсе «Смаката-2019»

АСТРАВЕЦ

Трэці год запар выпечка астравецкіх пекараў атрымлівае самую высокую ацэнку экспертаў рэспубліканскага агляду якасці хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў «Смаката-2019».

Сёлета агляд праходзіў па 16 намінацыях. Астраўчане адправілі дзесяць узораў выпечкі – і дзевяць з іх атрымалі ўзнагароды. Хлеб «Раманаўскі з семкамі» ўзяў «срэбра». А «золатам» адзначылі два батоны, багет, рулецікі з павідлам і дражджавы, булачку, а таксама прысмакі мучныя «Аўсяныя». Галоўную ўзнагароду – Гран-пры конкурсу – заваяваў пірог «Макавы цвет», паведамляюць у Астравецкім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.12 | 19.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1143 | **2.1062** |
| Еўра | 2.3436 | **2.3449** |
| Злоты, 10 | 5.4701 | **5.4961** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3269 | **3.3644** |
| Грыўня, 100 | 8.9598 | **8.9976** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 11.12 | 18.12 |
| Еўра | 2.3300/3.3500 | **2.3300/2.3520** |
| Долар ЗША | 2.1050/2.1230 | **2.0980/2.1150** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 11.12 | 18.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,29** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,24** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **14,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,80 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,55** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **3,80** |
| Перац, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Маладзечанца падазраюць у крадзяжы горніка. Міліцыя: не варта пакідаць ровар у пад'ездах

**У РАУС Маладзечна звярнулася 35-гадовая мясцовая жыхарка з заявай аб крадзяжы з пад'езда горнага ровара коштам трыста рублёў.**

Міліцыя выехала на месца. Пацярпелая патлумачыла, што дзвюма гадзінамі раней пакінула ровар у тамбуры на першым паверсе шматкватэрнага дома, дзе жыве. Вярнуўшыся, гаспадары не знайшлі ровар і звярнуліся ў міліцыю. Як высветлілася, горнік не быў прышпілены супрацьугонным тросам.

Праз пару гадзін паблізу дома №6 па вуліцы Віленскай міліцыянеры заўважылі 44-гадовага гараджаніна. Мужчына на ровары ехаў па краі праезнай часткі, віляючы з боку ў бок, расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.

Паводзіны невядомага насцярожылі міліцыянераў. Яны пайшлі за раварыстам, які паспрабаваў звярнуць у двары і схавацца. Але ў яго не атрымалася.

Ровар быў падобны да таго, што скралі ў жанчыны. А мужчына, які быў у стане алкагольнага ап'янення, сцвярджаў, што ровар належыць яго сыну.

Падазраванага затрымалі і даставілі для разбору ў Маладзечанскі РАУС.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі, што менавіта гэты ровар скралі з пад'езда па вуліцы Ясінскага. Падазраваны прызнаўся ў злачынстве. Сышчыкі ўстанавілі, што раней мужчына ўжо здзейсніў падобнае злачынства. У канцы кастрычніка ён пранік у пад'езд шматкватэрнага дома па вуліцы Вольнай і скраў прышпілены ровар. Потым яго прадаў, бо патрэбныя былі грошы на выпіўку.

Скрадзены ровар вярнулі законнаму ўладальніку. Узбуджілі крымінальную справу па артыкуле 205 КК Рэспублікі Беларусь «Крадзеж».

Маладзечанскі РАУС у чарговы раз нагадвае грамадзянам, што не варта пакідаць ровары ў пад'ездах, на рынках, ля крамаў, каля дзіцячых пляцовак. Для паркоўкі неабходна выбіраць месца, абсталяванае камерамі відэаназірання, альбо добра асветленыя ўчасткі. Абавязкова выкарыстоўвайце спецыяльныя замкі або тросы.

А яшчэ сфатаграфуйце свой ровар. Гэта дапаможа хутчэй знайсці яго, калі ровар раптам знікне, рэкамендуюць у РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жонка паведаміла, што муж з'ехаў на заробкі ў Польшчу і знік

МАЛАДЗЕЧНА

**Міліцыя шукае 49-гадовага Яўгена Фурмана.**



У аператыўна-дзяжурную службу звярнулася 54-гадовая гараджанка. Жанчына распавяла, што 49-гадовы муж у канцы жніўня з'ехаў працаваць у Польшчу. З роднымі кантактаваў праз Viber.

Па словах жонкі, мужчына знаходзіўся ў горадзе Чэлядзь. Апошні раз выходзіў на сувязь 27 лістапада, пасля чаго знік. Да цяперашняга часу месцазнаходжанне маладзечанца невядомае.

**Прыкметы мужчыны:** на выгляд 48-50 гадоў, рост каля 172 сантыметраў, мажны. Смуглы твар, блакітныя вочы, кароткія чорныя з сівізной валасы. Памер абутку 42-43.

**Асаблівыя прыкметы:** на пераноссі – невялікі шнар ад удару. На левым плячы – татуіроўка ў выглядзе галін, на правай лапатцы – у выглядзе знакаў.

Калі ехаў у Польшчу, быў апрануты ў бэжавую майку, бэжавыя шорты ніжэй за калена з бакавымі кішэнямі, белыя шкарпэткі і светла-шэрыя красоўкі, расказалі ў прэс-службе Маладзечанскага РАУС.

Міліцыя просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцазнаходжанні зніклага, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8(029)753-99-40, 8(0176)77-16-56** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі на лінію **«102»**.

**Аддзел інфармацыі.**

# На пажары псіхдыспансера ў Жодзішках загінулі два пацыенты

СМАРГОНЬ

**Здарэнне адбылося раніцай 12 снежня.**

Па папярэдняй інфармацыі, загарэўся тэлевізар у фае на другім паверсе.

Калі на месца прыехалі пажарныя, густы дым запоўніў калідор і памяшканні медыцынскай установы.

**Работнікі эвакуіравалі 51 пацыента да таго, як прыехалі выратавальнікі.**

Падчас разведкі выратавальнікі знайшлі загінулага мужчыну – 66-гадовага пацыента бальніцы. Яшчэ адну пацыентку – 80-гадовую жанчыну – спецыялісты вынеслі на паветра.




На месцы здарэння працуюць следчыя.

Фота з сайта Следчага камітэта.

Але па апошняй інфармацыі МНС, жанчына таксама памерла ў бальніцы праз некалькі гадзін.

Выратавальнікі не дапусцілі распаўсюджання пажару за межы фае. Эвакуіраваных часова размясцілі ў суседнім будынку. Аператыўна-следчая група высвятляе абставіны.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Як маладзечанская ДАІ лавіла п'янага кіроўцу

МАЛАДЗЕЧНА

Аб дарожным інцыдэнце паблізу плошчы Старое Места ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведамілі відавочцы.

Па словах грамадзян, кіроўца на «Вольве» серабрыстага колеру пры руху заднім ходам пашкодзіў плот жылога дома і ўцёк з месца здарэння.

Супрацоўнікі ДАІ выявілі фрагменты лакафарбавага пакрыцця аўтамабіля, які пратараніў агароджу. На вышук аўтамабіля і затрыманне кіроўцы-парушальніка былі арыентаваныя ўсе мабільныя і пешыя нарады.

У хуткім часе на лінію 102 паступіла інфармацыя, што на Т-падобным перакрыжаванні неадэкватны кіроўца серабрыстай «Вольвы» выехаў на зялёную зону і ўрэзаўся ў святлафор. Пасля чаго мужчына выехаў на сустрэчную паласу руху. Нарад ДАІ аператыўна прыбыў на месца. Газон быў спаласаваны слядамі ад шын, апора святлафора пашкоджаная.

На суседняй вуліцы аўтамабіль заўважыў нарад Дэпартамента аховы. Патрабаванні спыніцца кіроўца ігнараваў.

На Лібава-Роменскай вуліцы дзвюма машынамі – Дзяржаўтаінспекцыі і аховы – кіроўцу «Вольвы» заблакавалі.

Ён быў п'яны, медагляд паказаў у мужчыны амаль тры праміле.

У дачыненні да 68-гадовага жыхара Маладзечна склалі шэраг пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях. А пры праверцы дакументаў аказалася, што ў парушальніка адсутнічае дазвол на допуск аўтамабіля да ўдзелу ў дарожным руху.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Скраў у краме рыбу і батон і адразу пачаў есці

ВІЛЕЙКА

11 снежня каля пяці вечара ў аператыўна-дзяжурную службу Вілейскага РАУС паведамілі, што спрацавала кнопка трывожнай сігналізацыі ў краме УП «Рамонак» па вуліцы Гагарына.

Супрацоўнікі Вілейскага аддзела Дэпартамента аховы аператыўна прыбылі на месца здарэння і на выхадзе з крамы затрымалі мясцовага жыхара, 46-гадовага вілейчука.

Устанавілі, што мужчына ў стане алкагольнага ап'янення спрабаваў у краме адкрыта скрасці прадукты і спіртное, паведаміў карэспандэнту намеснік начальніка па кадрах і ідэалагічнай рабоце Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Аднак зрабіць гэтага ён не змог, яго затрымала прадавец і вырвала пакет з прадуктамі ў яго з рук.

Тады парушальнік адкрыта ўзяў палову нарэзнога батона і адну скумбрыю і, не выходзячы з крамы, стаў есці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечанскім і Вілейскім РАУС – новыя намеснікі начальнікаў

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

У Маладзечанскім РАУС на афіцэрскім сходзе 13 снежня намеснік начальніка УУС Мінаблвыканкама палкоўнік міліцыі **Раман Раманчук** прадставіў прызначанага намесніка начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні. Гэта падпалкоўнік міліцыі **Сяргей Гелда**. А ў Вілейскім РАУС ад 2 снежня на такой жа пасадзе працуе маёр **Мікалай Мягкоў**.

Падпалкоўнік міліцыі Сяргей Аляксандравіч Гелда нарадзіўся 15 сакавіка 1984 года ў Расіі, у пасёлку Чарнігаўка Прыморскага краю. Мае вышэйшую адукацыю.

Службу ў органах унутраных спраў пачаў участковым інспектарам міліцыі Валожынскага РАУС. Ад 2005 да 2010 года праходзіў службу на пасадзе эксперта экспертна-крыміналістычнай групы. У ліпені 2010 года Сяргея Гелду для далейшага праходжання службы перавялі ў Маладзечанскі РАУС. Тут ён працаваў старшым інжынерам па інфармацыйных тэхналогіях групы сувязі, затым – старшым інспектарам групы кадраў. У 2015 годзе працягнуў службу ў Валожынскім райаддзеле на пасадзе намесніка начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні, расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Ранейшы намеснік начальніка **Уладзімір Васількоў** пайшоў на пенсію ў верасні.

Новы намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Вілейскага РАУС Мікалай Мягкоў – віляйчанін. Да гэтага часу ён быў у Вілейскім РАУС начальнікам штаба. **Кацярыну Млечку**, якая працавала на пасадзе намесніка начальніка ад 2015 года, перавялі ў Заслаўскі аддзел, паведамілі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дзве віляйчанкі выступяць на абласным конкурсе прыгажосці

ВІЛЕЙКА

**13 снежня ў Палацы культуры зладзілі кастынг на конкурс «Міс Беларусь-2020».**

Тытулы «Міс» і «Віцэ міс» атрымалі віляйчанкі **Ксенія Камінская** і **Юлія Варахова** адпаведна. Ксенія – студэнтка. Юлія працуе настаўніцай.

Мы паразмаўлялі з дзяўчатамі пра іх уражанні ад кастынгу.

– Уражанняў шмат. Прачыналася некалькі разоў за ноч. Усё не верыла, што перамагла, – дзеліцца «Міс» Ксенія Камінская. – Шмат часу на тое, каб падрыхтавацца да конкурсу, у мяне не было, бо вучуся ў Віцебскім дзяржаўным каледжы культуры і мастацтваў. Хутка сесія, спектаклі, навагоднія мерапрыемствы.

Пра конкурс дзяўчына даведалася ад дырэктара вілейскай школы №5, дзе раней вучылася. Менавіта са школы ёй прапанавалі паўдзельнічаць.

– Канешне, я не магла адмовіць. Думала пра тое, як будзе класна прадставіць сваю Вілейку на абласным конкурсе. Папярэдзілі, што будзе візітоўка, дэфіле ў легінсах і вячэрніх сукенках, – прыгадвае Ксенія.

У каледжы дзяўчына займаецца пастаноўкай голасу, таму песня была гатовая. А візітоўку спецыяльна не рыхтавала. Кажа, неаднойчы ўдзельнічала ў падобных конкурсах у летніках. Некалі была «Міс Зубраня». Вырашыла, што проста раскажа пра сябе. Прызнаецца, трохі засмуціла тое, што выступала апошнім, дзясятым, нумарам.

**– Было вельмі прыемна, што падтрымаць прыйшлі настаўнікі і вучні з маёй пятай школы. Нават першая настаўніца прыйшла.**

Хвалявалася дзяўчына толькі за тое, што не паспее падрыхтавацца да конкурсу. Раніцай прыехала з Віцебска, а ўвечары – конкурс. Трэба было шмат папесць: прычоска, макіяж, убор, рэпетыцыя дэфіле.

Калі ўжо была на месцы, ведала, што ўсе ўборы адпрасаваныя, што нічога не забылася, хваляванне амаль знікла. Крыху трывожна было толькі за песню. На сцэне палаца выступала шмат, але адна на ёй ніколі не спявала.

– Калі пабачыла іншых удзельніц, зразумела, што ёсць з кім спаборнічаць. Сярод іх былі і знаёмыя дзяўчаты. Большасць рыхтаваліся ўсю ноч. А я ноччу ехала на цягніку, – кажа Ксюша.

Віцэ міс у падобным кастынгу ўдзельнічала першы раз. Хвалявалася і за прычоску, і за макіяж, і за візітку. Але дарма. Кажа, вялікую ролю адыграла падтрымка. Юля працуе настаўніцай, таму разам з блізкімі і калегамі прыйшлі яе вучні.

– Да кожнага з трох конкурсаў рыхтавалася старанна, – распавядае Юля. – Было прыемна атрымаць тытул. Дзякуючы конкурсу з'явілася больш упэўненасці ў сабе, а таксама новыя знаёмствы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота Міхася КУЛІШЫ.

Ксенія Камінская падчас узнагароджання.

22 снежня – Дзень энергетыка

# Нясём святло і цяпло ў кожны дом

**Для гісторыі 70 гадоў – невялікі тэрмін, але для такой галіны, як энергетыка, гэта перыяд, за які можна зрабіць вельмі шмат.**



Філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» – прадпрыемства складанага пасляваеннага перыяду аднаўлення прамысловасці Беларусі. Новую электрастанцыю пабудавалі за няпоўныя тры гады. 28 верасня 1949 года адбыўся пуск частковай магутнасці паратурбіннай электрастанцыі ў Маладзечне. Гэта дата і стала днём нараджэння Маладзечанскіх электрасетак.

За 70 год прадпрыемства прайшло некалькі этапаў рэарганізацыі і, нарэшце, стала адным з найбуйнейшых філіялаў «Мінскэнерга». Прадпрыемства мае ў складзе не толькі электрычныя сеткі і падстанцыі, але і цеплавыя сеткі і цеплакрыніцы.

Цяпер праца Маладзечанскіх электрасетак накіравана на электразабеспячэнне чатырох раёнаў Мінскай вобласці: Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Валожынскага, а таксама цеплазабеспячэнне ў Маладзечне і Вілейцы.

Складана перабольшыць значэнне энергетыкі ў нашым жыцці. Мы сабе проста не ўяўляем, як можна ў наш імклівы час абысціся без святла і цяпла. Чым жывуць сёння Маладзечанскія электрасеткі, мы даведаліся, калі наведалі філіял.

Сённяшнія Маладзечанскія электрасеткі – высокатэхналагічнае сучаснае прадпрыемства, якое ўпэўнена глядзіць у будучыню. Гэта людзі, якія абралі сапраўдную важную прафесію, адданыя справе, якія ганарацца сваім калектывам.

Цяжка пераацаніць значэнне працы энергетыкаў, бо яна стварае адны з найбольш неабходных выгодаў – святло і цяпло, што забяспечваюць камфорт у дамах, школах, бальніцах, офісах.

Кожны работнік электрасетак выконвае задачы, якія агулам робяць прадпрыемства дакладным механізмам.

### Служба ЛЭП – клапоцімся нават пра буслоў

Служба лініі электраперадач Маладзечанскіх электрасетак пачала працу ў 1963 годзе.

Першыя паветраныя лініі 35-110 кВ будавалі на драўляных апорах, апрацаваных кустарным спосабам. І прыходзілі ў непрыдатнасць, не адпрацаваўшы тэрмін. Ад 1970 года іх пачалі замяняць на жалезабетонныя апоры. Гэта быў адказны перыяд для калектыву, таму што большасць ліній не былі закальцаваныя і не мелі рэзервовага сілкавання. Работы па замене апор праводзілі па выхадных. Многія прадпрыемствы не працавалі, таму можна было прыцягнуць персанал і тэхніку з іншых электрасеткавых арганізацый. Служба выязджала па выхадных, каб праводзіць такія работы ў іншых прадпрыемствах электрасетак.

Сёння 27 работнікаў службы лініі электраперадач забяспечваюць стабільную працу паветраных ліній. На балансе філіяла 64 паветраныя лініі 35-330 кВ агульнай працягласцю больш за тысячу кіламетраў.

У межах аб'екта «Будаўніцтва АЭС у Рэспубліцы Беларусь. Выдача магутнасці і сувязь з энергасістэмай» філіял выканаў рэканструкцыю сетак напружаннем 35-330 кВ агульнай працягласцю амаль 73 кіламетры. Паветраныя лініі 330 кВ узвялі агульнай працягласцю больш за 190 кіламетраў.

Пры гэтым упершыню ў краіне ўчасткі некаторых ліній выканалі на апорах павышанага тыпу вышынёй 62 метры. Такая лінія ўздоўж лесу праходзіць над дрэвамі, таму яны не могуць пашкодзіць драты. Такая вышыня выратуе і буслоў – гнездаванне на электрычных апорах для птушак небяспечнае.

### Рукі заўсёды на пульсе

Дыспетчар **Дзмітрый Башаркевіч**, як і іншыя чатыры дыспетчары цеплатэхнічнай часткі філіяла, задае рэжымы работы і кантралюе працу цеплакрыніц і цепласетак Маладзечна, а таксама Вілейскую міні-ЦЭЦ.

Для зручнасці спажыўцоў па падключэнні іх электраўстановак да электрасетак стварылі кабінет узгаднення «Адно акно». У ім сканцэнтраваны ўвесь комплекс паслуг: ад закупкі матэрыялаў да падключэння да энергасеткі.

Работу па падрыхтоўцы тэхнічных умоў, распрацоўцы праекта электразабеспячэння, электрамантажных і пусканаладачных працах, электрафізічных вымярэннях і прыёма-здатачных выпрабаваннях з наступным падключэннем да электрасеткі выканае высокакваліфікаваны персанал філіяла. Вядучы інжынер па працы са спажыўцамі **Яўген Новак** расказвае, што спажыўцу дастаткова прыйсці ў кабінет «Адно акно» і аформіць дагавор з наступнай аплатай паслугі.



# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2121, 1987 г.в., сіні, фаркоп. Т. (8-029) 2678185.

• Дача Логан, 2010 г.в., 1461 куб см, дызель. Шэры металік, універсал. 11800 рублёў. Т. (8-029) 3358731.*

• Опель-Астра, 2001 г.в.,1,7 ДТІ, чорны. Т. (8-033) 6358202.*

• Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, 2,0 л, турба. Т. (8-029) 6080111.

• Форд-Мандэа, 1993 г, 1, 8 л., прабег 308 тыс. км, 2100 руб. Тел. (8-029) 6617890.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., сталяі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з рамонтам у Вілейцы. Т. (8-029) 7757392.*

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. 98-029) 9485029.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Першамайскай, 35 000 рублёў. Т. (8-029) 8785936, (8-029) 7620968.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у в. Каралеўцы Вілейскага раёна, участак 47 сотак. Т. (8-029) 2519948.

• Дом у в. Ракшыцы Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, летняя кухня. Т. (8-029) 9394312 Вэлком.*

• Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Выраб персанальных календароў з фота – 8 руб. Ёсць гатовыя з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Тел. (8-01592) 44717.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кубак з вашым фота – 9 руб. Ёсць кубак з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 44717.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мэбля пад заказ, кухні, шафы і г. д. ІП Зянюк А.П. УНП 691183866. Т. (8-029) 3652054, (8-029) 5652044.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зеленко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ПАРОДЫ ПРЭКОС ЖЫВОЙ ВАГОЙ, 4,50 РУБЛЁЎ ЗА 1 КГ. ВІЛЕЙСКІ РАЁН. Т. (8-029) 6769359.***

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

• Агрэгат б/у АКМ-100 (халадон) для прысценных халадзільных вітрын пад вынасны холад. ІП Заянчкоўскі А.С. УНП 600370490 Т. (8-029) 6278076.

• Дровы з дастаўкай. Т. (8-025) 7331501.*

• Піяніна нямецкае колеру «арэх». Т. (8-029) 6289816.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*







**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**
Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**



Фотазона.

# Сфатаграфуйцеся на фотазоне, а ўзамен пакіньце корм

**ВІЛЕЙКА**

**Калядная фотазона запрацуе ў Вілейскім цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ад 26 снежня да 12 студзеня па адрасе: Савецкая, 54.**

Фотазону работнікі ўстановы стварылі ў рамках акцыі «Заашанец». Можна зрабіць фотаздымкі, а ўзамен пакінуць корм, напаўняльнік ці яшчэ нешта патрэбнае для жывёл, кажуць арганізатары.

Усё гэта перададуць арганізацыі «Заашанец», а адтуль – валанцёрам, якія дапамагаюць бадзяжным жывёлам. Арганізатары спадзяюцца, што вілейчукі падтрымаюць добрую справу.

Час працы фотазоны: панядзелак, серада, пятніца – ад 8:00 да 20:00, аўторак, чацвер – 8:00 - 18:00, субота – 15:00 - 20:00.

З сабой трэба мець дакумент, які пацвярджае асобу, бо ва ўстанове прапускны рэжым.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |




Фота Насты КАРНАЦКАЙ.

# У Беларусі выдалі «Гары Потэра» па-беларуску

**Продажы кнігі «Гары Потэр і філасофскі камень» стартавалі ў Беларусі. За тры гадзіны ад старту прадалі 350 экзэмпляраў, паведамляе на сваёй старонцы ў Facebook выдавецтва «Янушкевіч», якое і выдала твор Джаан Роўлінг па-беларуску.**

Пераклад зрабіла Алена Пятровіч, дызайн належыць Браяну Сэлзніку. Адаптацыю пад беларускае выданне зрабіла Крысціна Іванцова.

Кніга выйшла накладам 2000 экзэмпляраў, але «Янушкевіч» не адмаўляе магчымасці рабіць дадатковы наклад.

Паводле выдавецтва, кніга – у цвёрдай вокладцы з імітацыяй шоўку і фальгіраваннем. Гэта значыць, што літары свецяцца. Старонкі – са шведскай паперы маркі Lux Cream. У кнізе – 332 старонкі фармату А5 – 135х205 мм.

Старт продажаў адбыўся ў мінскай кнігарні «Светач».

**На сустрэчу з перакладчыцай Аленай Пятровіч прыйшлі каля ста чалавек. Фотазону, рэквізіт, конкурсы і гульні забяспечыў беларускі фандом Harry Potter.**

### Ці звязаны сюжэт серыі з Беларуссю?

Як распавядаў адзін са значных персанажаў серыі Хагрыд, калі са сваёй знаёмай мадам Максім ездзіў шукаць веліканаў, «крыху паляяўся з вампірам у мінскай піўной».

### Чаму выхад «Гары Потэра» па-беларуску – значная падзея для літаратурнай прасторы

«Гары Потэр» – серыя з сямі кніг брытанскай пісьменніцы Джаан Роўлінг, якая прынесла аўтарцы сусветную вядомасць. Па стане на 2018 год колькасць прададзеных кніг перавысіла 500 мільёнаў экзэмпляраў. Прыгоды юнага чараўніка захапілі вялізную колькасць дзяцей і дарослых па ўсім свеце. Паводле водгукаў, шмат для каго з пакалення міленіялаў «Гары Потэр» стаў першай самастойна прачытанай кнігай.

Цяпер Гары Потэр загаварыў і па-беларуску. На маю думку, гэта чарговае сведчанне, што беларуская мова – прыдатная да самага шырокага ўжытку.

З'яўленне любога масавага прадукту па-беларуску – крок да пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы. Чакаем астатніх кніг з серыі на нашай мове.

Такі падарунак я паклаў бы пад ялінку сваім дзецям, як падрастуць.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**

# Фестываль мастацтваў у Маладзечне аб'яднаў 700 удзельнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечне адбыўся І Міжнародны фестываль мастацтваў Open MoloFantasy-2019. Творчы форум аб'яднаў шматлікіх удзельнікаў з Беларусі, Славеніі, Польшчы, Украіны, Расіі.**



Фота забяспечана Маладзечанскай цэнтралізаванай клубнай сістэмай.

Адна з удзельніц Open MoloFantasy-2019.

Арганізатар міжнароднага фестывалю мастацтваў – цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна пры падтрымцы Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта.

Фестывальны рух ад 21 лістапада да 8 снежня закрануў не толькі горад, але і раён. Урачыстае адкрыццё з беларускім каларытам адбылося 21 лістапада ў Цэнтры традыцыйнай культуры і побыту ў Плябані. Удзельнікі аматарскага аб'яднання этнаграфічнага клуба «Кола» правялі для гасцей фестывалю аглядную экскурсію па цэнтры, запрасілі развучыць традыцыйныя беларускія танцы, пазнаёміцца з нацыянальнай кухняй. У гэты ж дзень адбылося адкрыццё выставы конкурсных работ у намінацыі «Лепшае фота».

### Беларускі каларыт свята

У рамках Міжнароднага фестывалю мастацтваў замежныя госці мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з беларускай культурай і звычаямі. Майстар-клас па вырабе традыцыйных беларускіх лялек правялі ў Цэнтры культуры і побыту ў Гарадку, дзе кожны змог забраць зробленага абярэга. Спецыялісты Гарадоцкага сельскага Дома культуры правялі аглядную экскурсію па мястэчку, багатага на гістарычныя падзеі і помнікі культуры.

Досведам развіцця творчых праектаў, падтрымкі таленавітых дзяцей і падлеткаў, арганізацыі моладзевага руху падзяліліся прадстаўнікі замежных дзяржаў на сустрэчы лідараў «Разам для моладзі».

У рамках конкурснай праграмы І Міжнародны фестываль мастацтваў Open MoloFantasy-2019 аб'яднаў больш за 700 удзельнікаў у розных намінацыях: «Харэаграфія», «Інструментальная музыка», «Вакал», «Мастацкае слова», «Тэатральная творчасць», «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва».

### Багацце талентаў

У намінацыі «Інструментальная музыка» прынялі ўдзел 46 творчых калектываў і індывідуальных выканаўцаў. Намінацыя адрознівалася разнастайнасцю музычных інструментаў, на якіх удзельнікі выконвалі свае творы: гітара, скрыпка, саксафон, баян, флейта, народныя струнна-шчыпковыя інструменты. Самымі папулярнымі інструментамі апынуліся цымбалы і фартэпіяна.

У намінацыях «Харэаграфія» і «Тэатр моды» ўдзельнічалі 20 творчых калектываў. Удзельнікі здзіўлялі грацыяй і пластыкай, разнастайнасцю харэаграфічных нумароў і эксклюзіўных касцюмаў.

У намінацыях «Вакал» і «Мастацкае слова» сярод канкурсантаў было 75 творчых калектываў і сольных выканаўцаў. Яны прадэманстравалі высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства і сцэнічнай культуры. Удзельнікі намінацыі звярнуліся не толькі да музычных твораў класікаў, але і да сучасных аўтараў і беларускіх народных песень.

У намінацыях «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва», «Тэатральная творчасць», «Лепшае фота» працы прадставілі 27 творчых калектываў і індывідуальных майстроў.

### Перамогі

Па выніках фестывалю вызначылі двух уладальнікаў Гран-Пры: у намінацыі «Інструментальная музыка» перамогу павёз у Гродзенскую вобласць **Сямён Клышэйка** з Першамайскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў, а народны вакальны ансамбль «Беразіначка» Беразінскага сельскага Дома культуры стаў уладальнікам галоўнай узнагароды ў намінацыі «Вакал».

На працягу ўсіх конкурсных дзён ацэньвалі ўдзельнікаў такія знакамітыя майстры мастацтва, як заслужаны дзеяч эстраднага мастацтва Украіны **Сяргей Дзярбун**, сябра Беларускага саюза музычных дзеячаў **Уладзіслаў Пушкоў**, загадчык аддзялення «Мастацтва» Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў **Вольга Палітыка**, выкладчык Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Глінкі і кіраўнік аркестра Belsaxo **Павел Казак**, вядучы акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага **Павел Еўтушэнка**, акцёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі **Мікалай Стонька**, артыст балета Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча **Ірына Данілюк**, саліст балета Вялікага тэатра оперы і балета **Дзмітры Шэмет**, фіналіст тэлепраекта «Акадэмія талентаў» і намінант прэміі «Ліра» Міністэрства культуры спявак TURAN.

**Надзея БОНДАР, цэнтралізаваная клубная сістэма.**

### Беларусь 1

**6.25** Існасць.
**6.50** Х/ф **«ЕЛКИ 5».**
**8.20** Кулинарная дипломатия.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** Маршрут построен.
**9.45** Здоровье.
**10.35** Старое – новое.
**11.10, 12.10** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 3».**
**13.15** Премьера! «Три в одном 4» 1, 2 с.
**15.15** Краіна.
**15.45** «Кухня жизни». Кулинарная программа.
**16.20** Х/ф **«ОТ ЛЮБВИ ДО НЕНАВИСТИ».**
**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.
**21.00** Панорама.
**21.45** Х/ф **«КОВЧЕГ МАРКА».**
**1.10** День спорта.

### Беларусь 2

**7.00** Анимация для всей семьи. «Секретная служба Санта Клауса».
**8.45, 20.55** Телебарометр.
**8.55** Х/ф **«СПЯЩАЯ КРАСАВИЦА».**
**10.25** Кто я?
**10.45** Копейка в копейку.
**11.25** Камень, ножницы, бумага.
**12.05** «Подиум». Фэшн-шоу.
**13.10** Анимация для всей семьи. «Холодное сердце».
**14.50** Мелодраматический фильм-фэнтези «Красавица и Чудовище».
**17.05** BELBET. Время побед!
**17.15** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.
**18.55** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**21.00** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.50** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.
**22.55** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК- МУРАВЕЙ «.**

### Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 13.35, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 13.50, 20.35** «Гэты дзень».
**8.25** «Вовка в Тридевятом царстве». Мультфільм.
**8.45** «Кухарка». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая культура». Традыцыя выпечкі караваеў на Слонімшчыне. Калядарна-абрадавае печыва (Гродзенская вобласць).
**10.20** «Беларуская кухня». Галубцы ў чапцы.
**10.50** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.20** «Чыстае неба». Мастацкі фільм.
**13.05** «Навукаманія».
**13.55** «Ты – мне, я – табе». Мастацкі фільм [СТ].
**15.20** Госці «Славянскага базару-2019». Канцэрт.
**16.15** «Усё, што нам трэба...» Мастацкі фільм [СТ].
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – паэтэса, кіраўніца Узорнага дзіцячага фальклорнага аб'яднання «Згадка» Ірына Ляшкевіч.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** Жорж Бізэ. «Кармэн». Опера Нацыянальнага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі.
**23.35** «Культурны рэпартаж». Батлейка.

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**7.50** Премьера. «Михаил Боярский. «Много лет я не сплю по ночам».
**9.10** «Михаил Боярский. Один на всех».
**12.20** Т/с **«КЛЯНУСЬ ЛЮБИТЬ ТЕБЯ ВЕЧНО».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.
**17.45** Премьера ОНТ: «Талент краіны».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.10** ОНТ представляет: «Специальный репортаж».
**21.30** «Голос». Новый сезон.
**23.30** «Дискотека 80-х».

### СТВ

**6.10** «Пища богов».
**7.55** «Анфас».
**8.15** «Самая полезная программа».
**9.00** «Тайны Беларуси».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.35** «Центральный регион».
**11.10** Документальный проект.
**11.40, 13.40, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ-спорт».
**20.05** Документальный спецпроект.
**22.25** «Засекреченные списки».
**0.00** Т/с **«NEXT 3».**

### Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10** «Союзники».
**6.40** «Такие разные».
**7.20** «Секретные материалы».
**7.50, 5.05** Мультфильмы.
**8.50** «Ой, мамочки».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.15** «Как в ресторане».
**10.50** Х/ф **«ОГОНЬ, ВОДА И МЕДНЫЕ ТРУБЫ».**
**12.35** Х/ф **«ФИНИСТ-ЯСНЫЙ СОКОЛ».**
**14.10, 16.15** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**17.15** Х/ф **«ТАРИФ НОВОГОДНИЙ».**
**19.15** Х/ф **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**
**0.40** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ДЕТЕКТИВ».**
**2.25** Х/ф **«ДЕТИ ДОН-КИХОТА».**
**3.40** Х/ф **«МЫ ИЗ ДЖАЗА».**

### НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».
**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.55** «Тело человека».
**7.25** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.50** «Города Беларуси».
**9.25** «Врачебные тайны плюс».
**10.25** Главная дорога.
**11.00** «Еда живая и мёртвая».
**12.00** Квартирный вопрос.
**13.05** «Поедем, поедим!».
**14.05** Х/ф **«СИЛЬНАЯ».**
**16.25** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.40** Т/с **«СКОРАЯ ПОМОЩЬ».**
**0.30** Т/с **«ВЕРСИЯ».**

### БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«Я НЕ ВЕРНУСЬ».**
**9.10** Х/ф **«ВОЗРАСТ ЛЮБВИ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Пятеро на одного».
**12.15** «Наше дело».
**12.30** «Аллюр». Шоу Людмилы Родионовой.
**14.10** ПРЕМЬЕРА. «Измайловский парк». Большой юмористический концерт.
**16.15** Х/ф **«МНЕ С ВАМИ ПО ПУТИ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.40** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 15.45** Легенды осени. **8.55** Пятый элемент. **11.25** Золотой век. **13.30** Морской бой. **18.10** Халк. **20.10** Питер Пэн. **22.05** Чужой билет. **0.05** Что скрывает ложь. **2.00** Невидимка. **3.55** Чего хотят женщины.

### TV1000 ACTION

**7.15** Неудержимые. **9.30** Транссибирский экспресс. **11.35** Красная жара. **13.25** Призрачный гонщик. **15.25** Анон. **17.05** Турист. **18.50** Имитатор. **21.10** Неудержимые 2. **22.55** Дуэль. **0.55** Во имя короля: История осады подземелья. **3.15** Призрачный гонщик 2. **5.10** Готика.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.20** Бой с тенью 2: Реванш. **10.00** Барышня-крестьянка. **12.00** Алёша Попович и Тугарин Змей. **13.25** Царь. **15.40, 5.40** Территория. **18.25** Вий. **20.50** Ирония судьбы. Продолжение. **22.55** Бой с тенью 3D: Последний раунд. **1.10** Млечный путь. **2.50** Остров везения. **4.15** СуперБобровы. Народные мстители.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45** Х/ф **«ЛАВКА ЧУДЕС». 11.30, 1.00** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ». 13.45** Х/ф **«ЧЕМ ДАЛЬШЕ В ЛЕС». 16.15** Х/ф **«РОБИН ГУД, ИЛИ МЛАДЕНЕЦ НА 30 МЛН. $». 19.00** Х/ф **«ДЕТИ ШПИОНОВ». 20.45** Х/ф **«ДЕТИ ШПИОНОВ: ОСТРОВ НЕСБЫВШИХСЯ НАДЕЖД». 23.00** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХИЕ ДЕВЧОНКИ». 2.45, 3.15, 3.30, 4.00, 4.30, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 8». 12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ». 14.00, 15.00** Т/с **«ГЛАВНЫЕ РОЛИ». 20.00, 21.00** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО». 22.00, 23.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 6.00, 7.00** Т/с **«ЧУДЕС НЕ БЫВАЕТ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС». 2.50** Х/ф **«САДКО». 4.20** Х/ф **«ЛЮБОВНОЕ БЕЗУМИЕ». 6.00** Х/ф **«КАНИКУЛЫ СТРОГОГО РЕЖИМА». 8.15** Х/ф **«БОЛЬШОЙ ПАПА». 10.00** Х/ф **«ТУТСИ». 12.15** Х/ф **«ВЫШИБАЛА». 14.00** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 16.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВО». 17.55** Х/ф **«СКАМЕЙКА ЗАПАСНЫХ». 19.30** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 21.20** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА». 23.00** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.05, 2.05, 3.05, 4.00** Виртуозы. **4.55, 5.50, 6.40, 7.25, 8.25, 9.25, 10.25, 11.25, 22.55** Частица вселенной. **12.25, 13.25, 14.30, 15.35, 16.40, 17.45, 18.45, 19.45, 20.50, 21.50** Крик совы.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.30** Т/с **«ЕРАЛАШ». 10.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.30** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.55** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.30** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **12.35** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 15.00** Х/ф **«ПОЛЯРНЫЙ ЭКСПРЕСС». 16.50, 19.25, 20.55, 22.40** Прогноз погоды на неделю. **16.55** Х/ф **«ДВИЖЕНИЕ ВВЕРХ». 19.30, 2.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ТАКСИ 3». 22.45** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **0.30** Ужасы «ВАТИКАНСКИЕ ЗАПИСИ». **3.25** Шоу «САРАНХЭ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Словакия – Казахстан. **8.50** Футбол. Чемпионат Англии. Вулверхэмптон – Манчестер Сити. **10.45** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура. **11.40** Фактор силы. **12.10** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Германия – США. **14.05** Мир английской премьер-лиги. **14.35** Тренировочный день. **15.05** Большой спорт. **15.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск – ЦСКА (Москва). **17.40** Азбука спорта. **17.50, 23.25** Спорт-центр. **19.55** Вот это спорт! **20.05** Биатлон. Рождественская гонка легенд-2019. Гельзенкирхен. **21.00** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Россия – Канада. В перерывах Спорт-центр. **23.35** Футбол. Чемпионат Англии. Бернли – Манчестер Юнайтед. 2-й тайм.

### EUROSPORT

**0.30** Теннис. Australian Open. Обзор. **1.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **2.30** Теннис. US Open. Обзор. **3.30, 4.00, 4.30, 9.00** Олимпийские игры. «Живые легенды». **5.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Обзор. **6.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Обзор. **7.00** Велоспорт. «Вуэльта». Обзор «. **8.00, 8.30** Олимпийские игры. «Момент триумфа». **9.30, 17.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Обзор. **10.35** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Женщины. Комбинация. Супергигант. **11.15** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Женщины. Комбинация. Слалом. **12.05** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **13.15, 23.00** Горные лыжи. Кубок мира. Бормио. Мужчины. Скоростной спуск. **15.00** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **16.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Энгельберг. Мужчины. HS 140. **18.15, 22.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Оберстдорф. Квалификация. **20.00** Биатлон. Рождественская гонка. Германия.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.20, 14.15, 1.30** Куда уходит детство. **6.10, 11.25** Автолайф. **6.25, 9.40, 12.05, 15.15, 18.40, 22.50, 0.25, 2.55** Итоговые новости. **6.35, 7.35, 0.45, 1.40** Металлоломщики. **8.20** Всё включено. **8.40, 9.55** Тест на «Драйве». **10.55** Испытание на прочность. **11.45, 19.30, 23.05, 2.20, 3.10** Работяги. **12.20, 20.30, 23.40, 3.55** Возвращение легенды. **13.20, 20.55, 0.10, 4.20** Легенды автопрома. **13.40** Сити тестер. **14.40** Комплектация. **15.30** Вторичка. **15.45** Обновление. **15.55, 21.15, 4.35** Резьба по стали. **16.30, 21.45, 5.05** Вечер с Пикуленко. **17.10, 22.30, 5.45** Тайный покупатель. **17.30** Байки про байки. **18.10, 18.55** От Кавказа до Аравии. **20.10, 23.25, 3.40** Хорошо забытое.

### EXPLORE

**6.00, 5.30** Гараж: Последний приют. **6.25, 7.15, 8.00, 8.50, 18.55, 19.40** Переделка старья. **9.40, 10.30, 11.15, 12.05** Строительство гигантов. **12.55, 13.40, 14.30** Масштабные инженерные ошибки. **15.20, 16.10** Короли разрушения. **17.00** Воздушная мега-доставка. **17.50** Лондонский супертуннель. **20.30, 21.20, 22.15, 23.05, 23.55** Речные чудовища. **0.50, 1.35** Выжить на Аляске. **2.20, 3.10, 3.55, 4.45** Австралийские золотоискатели.

### HISTORY

**6.35** Музейные тайны. **7.20** Родовые проклятья. **8.00, 9.00, 9.55, 10.55, 11.55, 12.55** Разгадка тайны пирамид. **13.50** Настоящий доктор Живаго. **15.00, 16.00** Николай и Александра: последние монархи России. **17.00, 18.05, 19.05** Невидимые города Италии. **20.10** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **21.15, 22.05** Титаник: истории из глубины. **23.00** Охотники на нацистов. **23.55, 0.50, 1.45** Карты убийства. **2.35, 3.30** Величайшие мистификации в истории. **4.20** Мифические существа. **5.10** Мифы и чудовища.

### NATURE

**6.15, 5.35** Природа в кадре. **6.40, 7.35, 16.10, 17.05** 24 часа на Земле. **8.30, 9.30, 10.30** Пингвины – шпион в стае. **11.25, 19.00** Тайная жизнь солнца. **12.20, 17.55** Охотники за черными дырами. **13.25, 14.20, 15.15** Удивительное семейство псовых. **20.00, 20.50** День из жизни Земли. **21.45** Тьма: мир ночной природы. **22.45** Операция «Айсберг». **23.40, 0.35** Суровая Австралия. **1.20, 2.25** Анатомия крупнейших животных. **3.15, 4.05, 4.50** Дикие штучки с Домиником Монаганом.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Только не рассказывайте маме, что я в. **6.15** Зона строительства. **6.40** Национальные парки Америки. **7.25, 8.10** Больше чем фокусы с Ди Эм Си. **8.55** Настоящий суперкар. **9.40** Ледяная дорога. **10.30** Ледяная дорога: Кошмар на дороге. **11.15, 12.00** Космос: Пространство и время. **12.45, 13.30** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **14.15** Международный аэропорт Дубай. **15.00** Осушить океан: Без следа. **15.45, 16.35, 17.25** Горячая зона. **18.15** Год в открытом космосе. **19.00, 22.10** Суперсооружения Третьего рейха. **19.45, 20.35, 21.20** Марс. **22.55, 23.40, 0.25** История Эмиратов. **1.15, 2.00, 2.45, 3.35** Секретные материалы древности. **4.25, 5.15** Авто – SOS.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.50** Охотничья и рыболовная кухня. **6.15, 23.05** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **6.40, 16.25, 0.10** Камский спиннинг. **7.10, 12.15, 18.00, 0.40** Бристольский залив. **8.00** На рыбалку вместе с папой. **8.30** На рыбалку с охотой. **9.05, 3.10** Особенности охоты на Руси. **9.35, 3.40** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **10.05** Охоты и охотники. **10.20** Охотничьи собаки. **10.55** Какая дичь! **11.10, 17.25, 1.20, 5.05** Африканское сафари. **11.45, 19.10, 1.50, 5.35** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **12.55, 18.50** Дело вкуса. **13.10** Фотоохота с Евгением Полонским. **13.40** Первый лед последний лед. **14.00** Донская рыбалка. **14.35** Люди дикого севера. **15.25** Рыбалка 360. **15.55** Охота в Приволжье. **16.55** Охота и рыбалка в. **19.40, 20.40** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **20.10** Беларусь: в поисках хорошего клева. **22.15** Охота в Беларуси. **23.40, 2.20** На зарубежных водоемах. **2.45** Битва профессионалов. **4.10** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **4.40** Пофестивалим!

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.10, 22.25, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 10.55, 18.55, 23.10, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 14.55, 19.10, 23.25, 3.10** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.15, 15.10, 19.30, 23.45, 3.25** Беспокойное хозяйство. **7.45, 11.45, 20.00, 0.15, 3.50** Профпригодность. **8.15, 12.15, 16.15, 20.25, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 16.30, 20.45, 0.40, 4.35** Дачные хитрости. **8.50, 12.50, 16.50, 21.00, 0.55, 4.50** Высший сорт. **9.10, 13.05, 17.05, 21.20, 1.10, 5.05** Дачных дел мастер. **9.40, 17.35, 21.55, 1.40, 5.35** Секреты стиля. **13.40** Огород круглый год. **15.45** Огород круглый год.

## Беларусь 1

**6.30, 13.05** Х/ф **«ВТОРАЯ МОЛОДОСТЬ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол!».

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Родные люди.

**15.15** Твой город.

**15.30** Х/ф **«Я ТЕБЯ НАЙДУ».**

**19.40** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ОТ ЛЮБВИ ДО НЕНАВИСТИ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**7.25, 19.30** Телебарометр.

**7.35** Х/ф **«ТРИ ОРЕШКА ДЛЯ ЗОЛУШКИ».**

**8.55** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**10.10** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.10** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.00** «Подиум». Фэшн-шоу.

**13.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-МУРАВЕЙ».**

**14.55** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.35** BELBET. Время побед!

**17.40** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.05** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЛЮБИТЕ КУПЕРОВ».**

**23.05** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**0.10** Кто я?

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 16.45, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Бременские музыканты», «По следам бременских музыкантов», «Сказка о царе Салтане». Мультфільмы.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.45** «Беларуская кухня». Фаршыраваная качка і куцця.

**11.15** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.10** «Усё, што нам трэба...» Мастацкі фільм [СТ].

**15.50** «Майстры і куміры». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Іскуі Абалян.

**17.00** «Ты — мне, я — табе». Мастацкі фільм [СТ].

**18.25** «Чыстае неба». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Кухарка». Мастацкі фільм.

**22.15** «Сто дзён з Купалаўскім».

**22.40** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Народны артыст БССР Віктар Тарасаў.

**23.20** М.Гусоўскі. «Песня пра зубра». Тэлевізійны спектакль.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ТЕТУШКИ».**

**11.30** «Видели видео?».

**13.55** Х/ф **«Я ХУДЕЮ».**

**16.20** «Татьяна Тарасова. Лёд, которым я живу».

**17.15** Премьера. Церемония вручения народной премии «Золотой граммофон».

**20.00** «Контуры».

**21.30** ОНТ представляет: «Специальный репортаж».

**21.50** «Что? Где? Когда?» Зимняя серия игр.

**23.00** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.20** «Две звезды». Новогодний выпуск.

## СТВ

**6.00** «Пища богов».

**7.30, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** Документальный проект.

**12.00, 13.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ОХОТА НА ЗВЕРЯ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**15.50, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ТЕХНОЛОГИЯ ВОЙНЫ».**

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**22.45** «Засекреченные списки».

**0.10** Т/с **«NEXT 3».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.45, 8.10** Мультфильмы.

**7.40** «Еще дешевле».

**8.20** Х/ф **«ФИНИСТ-ЯСНЫЙ СОКОЛ».**

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «Андрей Макаревич. Кино со вкусом».

**11.15** Х/ф **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ».**

**14.10, 16.15, 19.30** Х/ф **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.00** «Игра в кино».

**21.50** «Ночной экспресс».

**23.00** Д/ф «БЕРЕГИТЕ РОССИЮ».

**1.00** Х/ф **«ОТДАМ КОТЯТ В ХОРОШИЕ РУКИ».**

**2.50** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙТЕ, Я ВАША ТЕТЯ!».**

**4.40** Х/ф **«ДАМЫ ПРИГЛАШАЮТ КАВАЛЕРОВ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Родные люди.

**8.40** «Однажды...».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.10** «Секрет на миллион». Регина Дубовицкая.

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«ЭКСПЕРТ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СИНЕЕ ОЗЕРО».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Смехопанорама».

**11.50** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**12.45** Х/ф **«ФЛАМИНГО».**

**16.20** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Х/ф **«ЛИЧНОЕ ДЕЛО МАЙОРА БАРАНОВА».**

**23.25** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.05** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.10** Детсадовский полицейский. **8.25** Чужой билет. **10.40** Что скрывает ложь. **12.15** Питер Пэн. **14.10** Эван Всемогущий. **15.50** Чего хотят женщины. **20.10** Монстры на каникулах. **21.50** Дьявол и Дэниэл Уэбстер. **23.40** Голос монстра. **1.45** Мой парень – псих. **3.55** Тристан и Изольда.

### TV1000 ACTION

**7.10** Неудержимые 2. **9.10** Имитатор. **11.35** Дуэль. **13.30** Призрачный гонщик 2. **15.10** Готика. **16.55** Во имя короля: История осады подземелья. **19.05** Удача Логана. **21.10** Неудержимые 3. **23.25** Винчестер. Дом, который построили призраки. **1.05** Бесславные ублюдки. **3.35** Анон. **5.10** Криминальное чтиво.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**8.30** Бой с тенью 3D: Последний раунд. **10.40** По улицам комод водили... **12.00** Добрыня Никитич и Змей Горыныч. **13.20** Ирония судьбы. Продолжение. **15.25** Млечный путь. **17.15** Каникулы строгого режима. **19.15** Убежать, догнать, влюбиться. **20.50, 5.30** Полярный рейс. **22.30** Ярослав. Тысячу лет назад. **0.20** Эластико. **2.00** Чёрная вода. **4.00** Нереальная любовь.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.00** Х/ф **«МОСТ В ТЕРАБИТИЮ». 13.00** Х/ф **«ВОРИШКИ». 14.45** Х/ф **«КАСПЕР». 16.45** Х/ф **«КТО ПОДСТАВИЛ КРОЛИКА РОДЖЕРА». 19.00** Х/ф **«ДЕТИ ШПИОНОВ. ЧАСТЬ ТРЕТЬЯ: В ТРЁХ ИЗМЕРЕНИЯХ». 20.45** Х/ф **«ДЕТИ ШПИОНОВ 4». 22.30** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХИЕ МАМОЧКИ». 0.30** Х/ф **«ОЧЕНЬ ПЛОХИЕ ДЕВЧОНКИ». 2.30, 3.00, 3.15, 3.45, 4.15, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 8». 12.00, 13.00** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО». 14.00, 15.00** Т/с **«ГЛАВНЫЕ РОЛИ». 20.00, 21.00** Т/с **«ДОМ-ФАНТОМ В ПРИДАНОЕ». 22.00, 23.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 9». 4.00, 5.00** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«ОЛЯ + КОЛЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 2.40** Х/ф **«АМЕЛИ». 4.45** Х/ф **«ТАКСИ 4». 6.25** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!». 8.15** Х/ф **«ДНЮХА». 10.05** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ: НАРОДНЫЕ МСТИТЕЛИ». 11.50** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ». 13.50** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА». 15.35** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА 2». 17.35** Х/ф **«ОБМАНУТЬ ВСЕХ». 19.30** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ». 21.00** Х/ф **«ТАРИФ НОВОГОДНИЙ». 22.40** Х/ф **«ДУБЛЁР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.05, 2.00, 3.05, 4.00, 4.50, 5.45** Частица вселенной. **6.35, 7.35, 8.40, 9.45, 10.45, 11.50, 12.50, 13.55** Смерть в раю. **15.00, 15.55, 16.50, 17.45, 18.40, 19.35, 20.35, 21.25** Чисто английские убийства. **22.25, 23.20** Лишний.

### ВТВ

**6.00, 8.20, 9.05, 11.05, 12.50, 14.20, 16.10, 17.55, 19.25, 20.55, 22.40, 23.45** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.10** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.10** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.35** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.10** Шоу «САРАНХЭ». **12.10** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.25** Фэнтези «ТЁМНАЯ БАШНЯ». **16.15** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ». 18.00** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **19.30** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ТАКСИ 4». 22.45** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.50** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПАССАЖИР». 1.20** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **1.50** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 2.40** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.20** Футбол. Чемпионат Англии. Бернли – Манчестер Юнайтед. **8.10** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Швейцария – Швеция. **10.05** Биатлон. Рождественская гонка легенд-2019. Гельзенкирхен. **11.55** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Россия – Канада. **13.50** Пит-стоп. **14.20** Волейбол. Кубок Беларуси. Женщины. Финал. **16.45** Спорт-центр. **18.50** Игры «на вырост». **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Вулверхэмптон. В перерыве Спорт-центр. **21.10** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. США – Россия. В перерывах Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.05, 10.00, 21.30, 22.05** Олимпийские игры. «Живые легенды». **0.50, 8.00, 17.30** Горные лыжи. Кубок мира. Бормио. Мужчины. Скоростной спуск. **1.30, 10.30** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **2.15, 11.05** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **3.00, 9.00** Лыжные гонки. Кубок мира. Ленцерхайде. Тур де Ски. Мужчины. Масс-старт. 15 км. **3.30, 9.30** Лыжные гонки. Кубок мира. Ленцерхайде. Тур де Ски. Женщины. Масс-старт. 10 км. **4.00** Горные лыжи. Кубок мира. Альта Бадиа. Мужчины. Параллельный слалом-гигант. **5.00** Олимпийские игры. «Зал Славы». Лондон-2012. **6.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Обзор. **7.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Оберстдорф. Квалификация. **12.05, 22.35** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом. 1-я попытка. **13.15** Горные лыжи. Кубок мира. Бормио. Мужчины. Комбинация. Супергигант. **14.45, 23.10** Горные лыжи. Кубок мира. Линц. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **16.15** Горные лыжи. Кубок мира. Бормио. Мужчины. Комбинация. Слалом. **18.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Оберстдорф. HS 137. Квалификация. **19.15** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Оберстдорф HS 137.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.30, 13.55, 1.30** Куда уходит детство. **6.10** Автолайф. **6.45, 7.40, 0.45, 1.55** Металлоломщики. **8.30, 10.30, 13.35, 16.40, 19.00, 0.25, 1.40, 4.05** Итоговые новости. **8.45** Байки про байки. **9.25, 10.50** От Кавказа до Аравии. **11.25, 12.50, 14.20, 23.40, 3.40** Возвращение легенды. **11.55, 19.20, 22.50, 2.35** Работяги. **12.30, 19.55, 23.25, 3.25** Хорошо забытое. **13.20, 20.50, 0.10, 4.20** Легенды автопрома. **14.50** Комплектация. **15.25, 21.05, 4.35** Резьба по стали. **15.55, 21.40, 5.05** Вечер с Пикуленко. **17.00, 22.20, 5.45** Тайный покупатель. **17.15** Всё включено. **17.35** Тест на «Драйве». **20.15** Покорители Азии. **22.35** Обновление.

### EXPLORE

**6.10, 6.35, 7.05, 7.30, 7.55, 8.20, 8.45, 9.10, 9.40** Рыбалка со звездами. **10.05, 10.55, 11.45, 12.25, 13.00, 13.50, 14.40, 15.35, 16.30, 17.20** Выживание в лесу. **18.10, 18.55, 19.45, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.35** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Поисковая команда в Австралии. **1.55, 2.45, 3.35, 4.20, 5.10** Ковбои ледяных вод.

### HISTORY

**6.00** Швы времени. **6.30** Мифические существа. **7.20, 1.45, 2.10** Родовые проклятья. **8.00, 8.55, 9.50, 10.45, 11.40** Загадки Египта. **12.35, 13.30, 14.25** Частная жизнь. **15.25, 16.35, 17.50** Королевский двор изнутри. **19.00** Истории из королевского гардероба. **20.10** Истории из королевской спальни. **21.15, 22.10** Титаник: истории из глубины. **23.00** Охотники на нацистов. **23.55, 0.50** Загадочные убийства: нацисты. **2.40, 3.45** Тайны мертвых. **4.50, 5.35** Мифы и чудовища.

### NATURE

**6.05, 18.55** Охотники за черными дырами. **7.10, 7.55** Неукротимая Румыния. **8.50, 9.45, 10.40** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **11.35** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. Съемки. **12.35, 13.30, 14.20** Великие миграции в природе. **15.15, 16.10, 17.05** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **18.00, 22.50** Тайная жизнь солнца. **20.00, 20.55** 24 часа на Земле. **21.50** Тьма: мир ночной природы. **23.45, 0.35** Суровая Австралия. **1.30, 2.15** Анатомия крупнейших животных. **3.05, 3.55** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **4.40, 5.05, 5.30** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Только не рассказывайте маме, что я в. **6.15** Зона строительства. **6.40** Национальные парки Америки. **7.25, 8.10** Больше чем фокусы с Ди Эм Си. **8.55** Настоящий суперкар. **9.45, 10.30** Ледяная дорога. **11.15, 12.00** Невероятные машины. **12.45, 13.30** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **14.20** Международный аэропорт Дубай. **15.05** Расследования авиакатастроф. **15.50, 16.40, 17.25** Горячая зона. **18.15** «Армстронг». **19.00** «Аполлон»: Миссия, которая изменила мир. **19.45, 20.25, 21.15** Марс. **22.05** «Море теней». **23.50** Фидель Кастро: Потерянные Плёнки. **0.35** Трагедия «Челленджера». **1.20, 2.05, 2.50** По их собственным словам. **3.35** Секретные материалы древности. **4.25, 5.15** Авто – SOS.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00** Битва профессионалов. **6.25, 20.50, 23.25** Профессиональная рыболовная лига 2019. **6.40, 22.25, 23.45** Охота в Приволжье. **7.10, 11.50, 18.10, 0.15** Бристольский залив. **7.45, 22.55** На рыбалку вместе с папой. **8.15, 21.25** Охота и рыбалка в. **8.45, 3.10** Особенности охоты на Руси. **9.15, 3.40** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **9.45** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **10.15** Пофестивалим! **10.45, 17.35, 1.15, 5.05** Африканское сафари. **11.20, 18.55, 1.45, 5.35** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **12.40** Охотничья и рыболовная кухня. **12.55** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **13.25, 21.55** Камский спиннинг. **13.55, 19.30** На рыбалку с охотой. **14.30, 15.30** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **15.00** Беларусь: в поисках хорошего клева. **17.05** Охота в Беларуси. **20.05** Люди дикого севера. **21.05** Первый лед последний лед. **1.05** Дело вкуса. **2.15** Донская рыбалка. **2.40** По Якутии с Александром Борисовым. **4.10** Охоты и охотники. **4.25** Охотничьи собаки. **4.50** Какая дичь!

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.10, 22.25, 2.10** Дома на деревьях. **6.40, 10.55, 18.55, 23.10, 2.55** Кухня народов СССР. **7.00, 14.55, 19.10, 23.25, 3.10** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.15, 15.10, 19.30, 23.45, 3.25** Беспокойное хозяйство. **7.45, 15.45, 20.00, 0.15, 3.50** Профпригодность. **8.15, 12.15, 16.15, 20.25, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 16.30, 20.45, 0.45, 4.35** Дачные хитрости. **8.50, 12.50, 16.50, 21.00, 0.55, 4.50** Высший сорт. **9.10** Огород круглый год. **9.40, 13.40, 17.35, 21.55, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **11.45** Огород круглый год. **13.05, 17.05, 21.20, 1.10, 5.05** Дачных дел мастер.




Ля бюста паэта Янкі Купалы работы скульптара Заіра Азгура ў Вязынцы.

# З'явіўся першы 9-павярховік, а Маладзечанская вобласць перастала існаваць

## Што прыносілі ранейшыя гады Пацука ў Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Жывёла наступнага года – Белы Металічны Пацук. Па традыцыі прыгадаем, што адбывалася ў рэгіёне ў мінулая гады Пацука. Пачнём з Маладзечна.**

### 1924

Пачынаецца будаўніцтва ў фальварку Гелянова, што быў тады побач з Маладзечнам. Узводзяць цагляныя казармы для афіцэраў, іншыя аб'екты інфраструктуры для гарнізона 86 пяхотнага палка Войска Польскага.

У пачатку года ў польскую гімназію Тамаша Зана, што адчынілі двума гадамі раней у Маладзечне на вуліцы Вілейскай, прыехала група новых выкладчыкаў. Сярод іх – **Тадэвуш Яцунскі** – у будучым новы дырэктар гімназіі.

### 1936 год

8 студзеня ў вёсцы Дамашы, недалёка ад Маладзечна, нарадзіўся **Генадзь Каханоўскі**, беларускі гісторык, археолаг, фалькларыст, літаратуразнаўца, краязнаўца, аўтар кніг па гісторыі, які ўсё жыццё прысвяціў роднаму маладзечанскаму краю.

Пачалі будаваць школу-сямігодку. Яе падмурак ёсць і цяпер на тэрыторыі сярэдняй школы №1 імя Янкі Купалы.

### 1948

1 студзеня ў Маладзечне стварылі гарадскі ўчастак водаправода. Воданапорная вежа была ў Гелянове. Каля вежы на вуліцы Чкалава месцілася майстэрня гарадскога водаправода. Каналізацыі ў горадзе пакуль не было.

У гэтым жа месяцы пры Маладзечанскім аддзеле стварылі ўпраўленне пажарна-старажавой аховы. А ў Красным пачаў працаваць кансервавы завод.

Музей Янкі Купалы ў Вязынцы прыняў першых наведнікаў. А ў мястэчку Даўгінава нарадзіўся будучы мастак **Юрась Герасіменка-Жызнеўскі**. У хуткім часе сям'я пераехала ў Маладзечна. З тых часоў жыццё мастака звязанае з гэтым горадам. Працаваў у кніжнай, станковай і абстрактнай графіцы, у жанры партрэта. Ён – аўтар першага герба Маладзечна «Папараць-кветка».

З'явіліся два Дамы культуры – гарадскі і чыгуначнікаў.

### 1960

Маладзечанская вобласць перастала існаваць. Горад далучылі да Мінскай вобласці.

Адчынілі політэхнічны тэхнікум. Яго размясцілі ў будынку на плошчы, у якім павінны быў месціцца аблвыканкам, калі б Маладзечна засталося абласным горадам. На дзённае аддзяленне прынялі трыста навучэнцаў. Яшчэ 83 перавялі з Мінскага энергатэхнікума і тэхнікума харчовай прамысловасці. На завочнае аддзяленне залічылі 410 навучэнцаў. Пры тэхнікуме арганізавалі Шацілкаўскі вячэрні філіял, каб рыхтаваць работнікаў для Васілевіцкай ГРЭС (цяпер Светлагорская ЦЭЦ).

Таксама ў горадзе з'явілася сярэдняя школа №6 (цяпер гімназія). Гэта была адна з першых у Беларусі школ, дзе паглыблена вывучалі англійскую мову.

Пры гарадскім Доме культуры стварылі студыю выяўленчага мастацтва. Пра яе працу неадназова пісаў нам пазаштатны аўтар **Юрась Цэрабун**, які сам займаўся ў гэтай студыі.

### 1972

Стварылі Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» агульнай плошчай 21 гектар да 90-годдзя нараджэння Янкі Купалы. А скульптар Заір Азгур стварыў бюст паэта, які сёння сустракае наведнікаў у Вязынцы.

Пабудавалі першы дзевяціпавярховы будынак у Маладзечне – інтэрнат політэхнічнага тэхнікума на 640 месцаў.

### 1984

У снежні рабочая камісія прыняла будынак паста электрычнай цэнтралізацыі на чыгунцы ў Маладзечне. Пост будавалі для таго, каб скараціць працу стрэлачнікаў.

Выходзіць манаграфія Генадзя Каханоўскага **«Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст.»**. Манаграфія змяшчае багаты матэрыял па праблемах развіцця археалогіі і краязнаўства Беларусі ў дарэвалюцыйны час.

На будынку былой настаўніцкай семінарыі ўстанавілі мемарыяльную дошку ў гонар былых навучэнцаў і выкладчыкаў.

У Мінску нарадзілася будучы бард **Таццяна Беланогая**. У хуткім часе сям'я пераехала ў Маладзечна. Тут Таццяна скончыла гімназію №6.

### 1996

На акцыянерным таварыстве «Забудова» ў Чысці ўступіў у строй вытворчы комплекс па выпуску будаўнічых матэрыялаў і ўзвядзенні жылля.

У рамках фестывалю беларускай песні і паэзіі прайшоў бенефіс **Уладзіміра Някляева**. Упершыню на маладзечанскім фестывалі выступалі «Песняры». У музкаледжы адкрылі музычнае падвор'е «Новыя Агінты».

Нарадзіўся **Дзмітры Асанаў**, беларускі баксёр, бронзавы прызёр чэмпіянату свету 2015 года, сярэбраны прызёр Еўрапейскіх гульняў 2015 года, чэмпіён Беларусі, майстар спорту міжнароднага класа.

### 2008

У Маладзечанскай ЦРБ з'явіўся камп'ютарны тамограф.

На харчовым рынку афіцыйна адкрылі новы бакалейны павільён на 38 гандлёвых месцаў.

Дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча (цяпер каледжа) **Рыгор Сарока** атрымаў ордэн Францыска Скарыны.

Судмедэксперты пераехалі ў новы будынак на вуліцу Янкі Купалы. А ў парку адкрылі помнік удзельнікам баявых аперацый у іншых краінах.

У ліпені горад адсвяткаваў 620-гадовы юбілей. У жніўні пачалі рэканструкцыю аўтавакзала. Падчас работ у зямлі знайшлі патроны і косткі, падобныя да чалавечых.

21 ліпеня зацвердзілі новы герб Маладзечна і Маладзечанскага раёна – Багародзіцу ў сінім полі. Папараць перастала быць афіцыйным сімвалам горада. На жаль.

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**

● КАЛЯНДАР

**20 СНЕЖНЯ**

**1910.** Нарадзіўся **Вітаўт Тумаш** (в. Спягліца, цяпер Вілейскі раён), беларускі грамадскі дзеяч, доктар, скарыназнаўца. Абвінавачваецца ў калабарацыянізме падчас Другой сусветнай вайны. Памёр у ЗША ў 1998 годзе.

**1964.** Маладзечанская гармонная фабрыка выпусціла 100-тысячны гармонік «Беларусь».

**21 СНЕЖНЯ**

**1939.** На тэрыторыях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны былі выведзены з абароту польскі злоты з магчымасцю абмену да 250 злотых на рублі СССР на аднаго працоўнага.

**22 СНЕЖНЯ**

**1925.** Віленшчына была перайменаваная ў Віленскае ваяводства.

**23 СНЕЖНЯ**

**1791.** Расійская імператрыца Кацярына II усталявала на новадалучаных тэрыторыях Рэчы Паспалітай т.зв. рысу аседласці для яўрэяў.

**1953.** Расстрэл у Маскве Лаўрэнція Берыі і іншых дзеячаў СССР, абвінавачаных у шпіянажы і спробе захопу ўлады.

**24 СНЕЖНЯ**

**1938.** У Вілейцы нарадзілася **Эва Марыя Астроўская**, польская дзіцячая пісьменніца і журналістка. Памерла ў 2012.



**1979.** СССР увёў войскі ў Афганістан.

**25 СНЕЖНЯ**

**1962.** Горад Дрыса Віцебскай вобласці атрымаў назву Верхнядзвінск.



**26 СНЕЖНЯ**

**1991.** Савет Рэспублік Вярхоўнага Савета СССР канстатаваў спыненне існавання СССР у сувязі з утварэннем СНД.

Падрыхтаваў
**Мікола ГАЙДУК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Графіці ў Берліне.


Фота забяспечана Ірынай ТАРХАН.
Ірына Тархан у адным з берлінскіх дворыкаў.

# Агароды з памідорамі ў цэнтры горада і зеляніна на дахах

## Што ўразіла маладзечанку ў Берліне

МАЛАДЗЕЧНА

**Тут ніхто не стрыжэ дрэвы, таму яны вялізныя і разгалістыя. Любую пустку абавязкова азеляняюць, нават калі гэта балкон ці дах. А пляцоўку для адпачынку і шпацыру з дзецьмі могуць зрабіць нават на… старых могілках.**

У рамках праграмы для актывістаў Prodvizhenie-2019 жыхарка Маладзечна **Ірына Тархан** наведала Берлін. Маладзечанка пазнаёмілася з працай мясцовых актывістаў, узяла новыя ідэі для ўласных праектаў, а па прыездзе падзялілася ўражаннямі з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты».

### Няспешнасць і шпацыр у гадзіну ночы

У Берліне адразу заўважаеш іншы рытм жыцця, кажа Ірына. Тут больш спакойна, няспешна. У гадзіну ночы людзі шпацыруюць пад вокнамі, нібыта гэта пяць вечара. А ў пятніцу ў Берліне больш руху. Адразу бачна, што людзі едуць адпачываць. Прычым як моладзь, так і людзі ва ўзросце 60+.

Ірына заўважыла своеасаблівы нямецкі клімат. Адчуваўся значны перапад паміж дзённай і вячэрняй тэмпературай. Але з надвор'ем пашанцавала. Амаль увесь тыдзень было сонечна. У канцы лістапада яшчэ ўсе дрэвы было ў лістоце.

– Так атрымалася, што паездка падарыла нам некалькі дадатковых гадзін. Мала таго, што мы нібы з лістапада вярнуліся ў верасень. Дык яшчэ з-за розніцы ў часе вылецелі з Беларусі ў 12:25. І ў Германію прыляцелі таксама ў 12:25.

### Адкуль на вуліцах Берліна памідоры і суніцы

З досведу нямецкіх актывістаў маладзечанку зацікавіў накірунак «Ядомы горад», пакуль не распаўсюджаны ў Беларусі. Проста на вуліцах Берліна садзяць гарадскія фруктовыя сады, робяць агароды. Грады з суніцамі, памідорамі, зелянінай – звычайная з'ява на вуліцах Берліна. Бацькі прыводзяць сюды дзяцей, каб паказаць, што ягады і гародніна растуць не ў супермаркетах. Ірына лічыць, што падобныя агародзікі будуць запатрабаваныя ў Маладзечне. Тым больш, досвед у нас ужо ёсць. Сёлета маладзечанцы паставілі бочкі на вуліцы стрыт-фуда і вырасцілі там кабачкі.

– Я так зразумела, што ў нямецкіх гарадах прасцей дамовіцца з мясцовымі ўладамі. Таму сады і агароды – на любым лапіку гарадской зямлі. Калі гэты ўчастак пакуль не запатрабаваны для іншых мэт, яго аддаюць актывістам, а яны добраўпарадкуюць яго на свой густ. Абновяць агароджай, робяць месца для агульнага адпачынку і правядзення нейкіх актыўнасцяў. Тут можа стаяць сцэна, дзе моладзь чытае рэп. Часам ладзяць фестывалі і экамаркеты. На некаторых пляцоўках ёсць месца для вогнішча і альтанкі, – дзеліцца маладзечанка.

### Хочаш больш даведацца пра дрэва? Сфатаграфуй яго

Пляцоўкі, створаныя актывістамі, – па ўсім горадзе, часам нават у самым цэнтры. Адна з такіх – старыя могілкі, на месцы якіх зрабілі гарадскі сад. Тут часта гуляюць мамы з дзецьмі, ёсць лаўкі, каб прысесці, і прылады для дзіцячых гульняў.

Шмат арганізацый у Берліне займаецца экалагічнымі праблемамі. Але гэта не толькі збор смецця. Так актывісты з арганізацыі «Bund» абараняюць птушак і вадаёмы, выступаюць супраць светлавога забруджвання і атамнай энергетыкі і за тое, каб жывёлы жылі сярод людзей.

Яны ж распрацавалі пазнавальнае прыкладанне для мабільнага тэлефона. З дапамогай яго можна сфатаграфаваць дрэва, а потым прачытаць пра яго ў сваім мабільніку. Арганізацыя вельмі вялікая і ўплывовая. Як кажуць яе сябры, нас больш, чым людзей у парламенце.

**Ірыне спадабаўся досвед працы культурнай лабараторыі спроб і памылак. Яе сябры займаюцца тым, што збіраюць непатрэбныя рэчы і раздаюць тым, хто мае ў іх патрэбу.**

Яшчэ адзін накірунак – выраб новых рэчаў са старых.

– Для нас правялі майстар-клас па вырабе бранзалетаў. Яны выглядаюць як скураныя, а робяцца з роварнай камеры з дапамогай стэплера і заклёпак, – дзеліцца Ірына.


У такіх буданах жывуць даўншыфтары.

З бітага посуду і цэменту тут вырабляюць дэкаратыўную плітку, якая потым прыгожа глядзіцца ў горадзе. З дапамогай арганізацыі можна па дагаворы папрацаваць у мясцовых фермераў. А калі прыйдзе час збору ўраджаю, атрымаць экалагічную садавіну і гародніну.

### Чаму Маладзечна стэрыльны горад і ці добра гэта

– Калі глядзіш на муралы і графіці ў Берліне на дамах і нават на рэштках Берлінскай сцяны, разумееш графіцістаў, якія прыязджалі распісваць вуліцу стрыт-фуда ў Маладзечне. Тады яны сказалі, што Маладзечна – стэрыльны горад, – дзеліцца суразмоўца.

Цягам года Ірына займаецца праектам «Наш двор»: ладзіць святы для суседзяў, добраўпарадкуе тэрыторыю. Таму не магла не звярнуць увагі на мікраараёны, дзе кожны двор добраўпарадкаваны па-свойму. У адным – вялізнае дрэва на ўвесь двор, а вакол яго – пясочніца. У другім – маленькія крамы, у трэцім – кавярні, кіно і музей.

– Уразіла, што ў нашых нямецкіх калег проста гаралі вочы, калі яны дзяліліся з намі досведам. Было адразу бачна, што людзі робяць галоўную справу свайго жыцця, – падсумавала Ірына.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Не хавайце пачуццяў і адкрывайце сэрцы

## У рэдакцыі «РГ» абмеркавалі найлепшыя фота 2019 года



Фота Насці УЛКНАЙ.

Фірменны каляндар «Рэгіянальнай газеты» на 2020 год. Можаце атрымаць яго ў падарунак у нашай рэдакцыі і вы. Проста прыйдзіце і папрасіце. Мяркуем, што календары будуць даступныя цягам снежня і студзеня.







Пераможцы акцыі «Не губляй ніводнага дня!» Алеся Горбач, Уладзімір Пятроўскі і Святлана Андрушойць.

**Аказалася, што ўсе трое пераможцаў нашай акцыі – сваякі. І высветлілі яны гэта дзякуючы нашай акцыі.**

Пераможцаў акцыі мы ўзнагародзілі 12 снежня.

### «А смеху было!»

Уладзімір – сталы чытач газеты. Працуе дальнабойшчыкам і вельмі любіць фатаграфаваць. Таму як толькі ўбачыў запрашэнне паўдзельнічаць у конкурсе, намерыўся і сам у ім удзельнічаць, і дачку Алесю падключыў – у сямейных альбомах столькі ж здымкаў!

– Я то добра фатаграфаваць не ўмею, – распавядае Уладзімір. – Таму вырашыў, што трэба дасылаць неардынарнае фота, каб вылучыцца. Конкурснае фота зрабіў, калі быў у сястры Зоі са шваграм Толікам на Мядзельшчыне. Папрасіў стаць побач з кабанчыкам. Спытаўся, ці можна выкласці фота ў «Аднакласніках», дазволілі.

– І фота мела проста каласальны поспех у «Аднакласніках»! – дадае дачка Алеся.

– А пасля таго, як фота надрукавалі ў газеце, неяк да дома сястры пад'язджае «УАЗік». Выходзяць чатыры чалавекі ў форме, падаюць газету. Пытаюцца, ці яны гэта на здымку. Ну так. Сястра кажа, што падумала, можа, ужо прызы ад газеты прывезлі. Аказалася, гэта з газавай службы прыехалі праверыць, ці ўсе дакументы ў парадку на балон і падключэнне гарэлкі. Дакументы ўсе ў парадку, праверылі. А смеху ж з-за гэтага было!

За здымак з асмаленым кабанчыкам Уладзімір Пятроўскі атрымаў дыплом «За захаванне традыцый».

### «Не бойцеся шчырых пачуццяў»

Здымак **Алесі Горбач** перамог у конкурсе. Алеся – дачка Уладзіміра Пятроўскага. Бацька падказаў, што дачцэ лепш адправіць на конкурс фота двухгадовага Ромкі.

У той дзень, які і зафіксавалі на фота, сям'я была ў вёсцы Яцкавічы Мядзельскага раёна, капалі бульбу. Алеся зрабіла вельмі шмат здымкаў сына Ромкі. А самы яскравы кадр атрымаўся, калі Ромка ўпершыню ў жыцці пакаштаваў яблык.

> **– Ён так залівіста смяяўся, што ўкусіў яблычак! – прыгадвае Алеся. – І ўсе гэтыя эмоцыі перадае фота.**

Такі шчыры кадр нібы кажа: не трэба хаваць пачуццяў, спрабуйце адчуваць гэтак жа непасрэдна, як дзеці. І не бойцеся адкрываць сэрца!

### «Фота мужа не падводзіць»

**Святлана Андрушойць** убачыла аб'яву пра конкурс у стужцы навін. Жанчына працуе доктарам-энтамолагам у Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Дачка **Насця** па прыкладзе маці абрала медыцынскую прафесію. Муж **Алег** – працуе інжынерам, а яшчэ ён аматар палявання. Таму ў сям'і ёсць гадаванец – паляўнічы сабака-дзяўчынка Торы. Менавіта з ёй на конкурсным фота Святлана.

Святлане і Алегу падабаецца часам вечарам паездзіць па ваколіцах, знаходзіць прыгожыя краявіды.

– Я знаходжу карцінку, ракурс, а мужа прашу пафатаграфаваць, – распавядае Святлана. – І яго фота ніколі не падводзяць!

Калі пераможцы конкурсу перазнаёміліся, аказалася, што ва ўсіх карані з Мядзельскага раёна. І верагодна, што нават ёсць сваяцтва.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Важную ролю падчас святочнага сезона ў Германіі адыгрываюць калядныя кірмашы (Вайнахтсмэрктэ). Фота wetter.de.

# Сямейнае свята, у якога шмат традыцый. Як адзначаюць Каляды ў Германіі

**Каляды (Weihnachten – Вайнахтэн) для немцаў – незабыўнае свята, падчас якога разам збіраецца ўся сям'я. У Германіі існуюць некаторыя звычаі і традыцыі, якія ўшаноўваюць і выконваюць практычна ўсе.**

## Святочныя дні пачынаюцца за чатыры тыдні да Калядаў

Каляды ў Германіі не абмяжоўваецца толькі куццёй і двума святочнымі днямі. Свята пачынаецца за чатыры тыдні да саміх Калядаў. Гэты перыяд называецца – Адвентцайт, што перакладаецца як «час Прышэсця». Калядныя крамы адкрываюць свае дзверы і прапануюць пакупнікам разнастайныя ўпрыгажэнні для дома.

У цэнтры ўвагі для немцаў – вянок з чатырма свечкамі, «Адвентскранц». Ён робіцца з яловых галінак, звязаных між сабой, і ўпрыгожваецца дэкаратыўнымі элементамі. Кожную нядзелю на вянку запальваюць адну свечку.

Напярэдадні Калядаў запальваюцца ўсе свечкі, сем'і збіраюцца разам, каб спячы печыва, а сябры – выпіць пуншу. Звычай запальваць калядны вянок з'яўляецца дастаткова маладым. Ён быў уведзены ў 1839 годзе багасловам і асветнікам Іаганам Хінрыхам Віхенам.

Вянок з'яўляўся часам зваротнага адліку для дзяцей, якія неаднаразова пыталіся, калі ж наступіць час святкавання Калядаў. Віхен узяў кола і ўкамплектаваў яго 19 белымі і чатырма чырвонымі свечкамі. Кожны дзень на працягу Адвенту ён запальваў свечку, а дзеці ведалі, колькі яшчэ чакаць свята. У якасці альтэрнатывы распрацавалі вянок з яловых галінак.

## Адвентскаляндар, падарункі ад Святога Мікалая і святочны кірмаш

Каляндар у перыяд Адвенту з'яўляецца абавязковым атрыбутам для дзяцей і некаторых дарослых. Ён складаецца з 24 «дзвярэй», кожная з якіх адчыняецца ад 1 снежня адзін раз у дзень. За дзвярыма схаваныя прысмакі і іншыя маленькія сюрпрызы, якія робяць саладзейшым час чакання Калядаў. Каляндар Адвенту прыдумалі ў 19 стагоддзі. Звычайны каляндар лічыць дні ад 1 снежня да Калядаў.

Ёсць і рэлігійны каляндар, ён пачынае адлік з першай нядзелі Адвенту да Калядаў. Хоць гэта чыста старыя нямецкія традыцыі, Адвентскаляндар карыстаецца вялікай папулярнасцю ў іншых краінах.

Важны дзень падчас каляднага сезона ў Германіі – Міколаўстаг, альбо Дзень Святога Мікалая, калі боты і чаравікі дзяцей напаўняюцца невялікімі падарункамі і прысмакамі. Гэты звычай узыходзіць да легенды аб Святым Мікалаі, які быў біскупам у горадзе Свету ў Турцыі. Ён аддаваў усё, што меў, бедным і дзецям. Днём смерці заступніка дзяцей з'яўляецца 6 снежня.

**Але толькі добрыя дзеці ўзнагароджваюцца Мікалаем, а непаслухмяных дзяцей падцікоўвае злы Кнэхт Рупрэхт.**

Важную ролю падчас святочнага сезона ў Германіі адыгрываюць калядныя кірмашы – «Вайнахтсмэркцэ». Гэтыя традыцыйныя рынкі, якія адкрываюцца ў першы дзень Адвенту. На ім ёсць святочныя кіёскі і шапікі з глінтвейнам, каляднымі кулінарнымі стравамі, ёлачнымі ўпрыгажэннямі, свечкамі і многім іншым. Традыцыя гэтых рынкаў з'явілася яшчэ ў 14-м стагоддзі. Самым вядомым калядным кірмашом з'яўляецца кірмаш у Нюрнбергу. Сваімі маляўнічымі кірмашамі вядомыя Дрэздэн і Аахен.

## Час цудаў

Па заканчэнні чатырох тыдняў Адвенту, праведзенага на калядных кірмашах, падчас якога выпіта шмат глінтвейну і з'едзена шмат печыва, у казачныя дамы, упрыгожаныя мішурой і агнямі, прыходзіць куцця (Хайлігабэнд). Традыцыі гэтага дня прайшлі доўгі шлях. У многіх сем'ях накрываецца святочны стол, які складаецца са смажанага гусака і пельменяў або традыцыйнага каляднага карпа. У іншых сем'ях вялікае свята пераносіцца на першы ці другі святочныя дні.

Пачатак Калядаў азначае Калядная імша, якая пачынаецца апоўначы ў галоўных храмах. У большасці краін 25 снежня з'яўляецца Днём Божага нараджэння. У Германіі гэты дзень абавязкова суправаджаецца больш смачнай ежай.

**Два дні афіцыйных выхадных выкарыстоўваюцца для наведвання сваякоў і сяброў. Пасля чаго калядны сезон завяршаецца.**

Калядныя традыцыі іграюць важную ролю. У Германіі Каляды святкуюць нават атэісты і мусульмане. Пабываць на Калядах ў Германіі – значыць, акунуцца ў свет чараўніцтва, казкі і вялікай таямніцы.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

**Анхела**

**Калі кіравацца адным стэрэатыпам пра Іспанію, то можна было б сказаць, што на мае Каляды – сонца, мора і абсалютны недахоп святочнага настрою (хаця трэба ж сказаць, што ў Аўстраліі святкуюць Новы год увогуле ўлетку, на пляжы, і ім добра). Перш за ўсё, хачу, каб вы ведалі: у Іспаніі снег бывае. У некаторых рэгіёнах нават у вялікай колькасці і ў таварыстве нармальнага (-20°С) марозу. Не ў маім горадзе, але ў некаторых.**

# На Каляды... Снегапады?

А наконт «сапраўднага каляднага настрою» і «Белае Раство»... Ну, што я магу сказаць – я толькі што зірнула, якое надвор'е ў Віфлееме: +16.

Канешне, экалогія і змена клімату – тэма для іншага артыкула, але не магу ўявіць, каб Ісуса (калі ён існаваў) сустрэў пры нараджэнні моцны мароз.

У любым выпадку, галоўнае тое, што іспанцы дужа любяць Каляды, нягледзячы на тое, што краіна мае вельмі абыякавае стаўленне да арганізаваных рэлігій. Я так разумею, існуе і стэрэатып пра «палкую веру глыбока каталіцкай краіны». Ну гэта вельмі і вельмі далёка ад праўды. Фармальна, амаль усе хрышчоныя. Шмат хто (але ўжо далёка не ўсе) вянчаецца ў касцёле. А потым ніколі больш не наведвае яго да пахавання. Такія справы.

Дык як выглядае калядны перыяд у Іспаніі? Я раскажу толькі пра агульнае і/або андалусійскае, бо я не моцна знаёмая з традыцыямі іншых рэгіёнаў (святаў у некаторых болей, чым нават у нас), але мае Каляды выглядаюць традыцыйна прыкладна так.

## 1. Доўгія выхадныя Дня Канстытуцыі і Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі

Лёс (і ўлады) захацелі зрабіць іспанцам ласку і спалучылі рэлігійнае свята з дзяржаўным. Гэта 6 снежня (Дзень Канстытуцыі 1978 г.) і 8-га (Дзень Беззаганнага Зачацця). Абодва дні – непрацоўныя. А значыць, многія іспанцы атрымліваюць (у выпадку школьнікаў і студэнтаў асабліва) або выпрошваюць на працы выхадны і на сёмае. Гэтыя дні асаблівыя тым, што большасць іспанскіх сем'яў іх выкарыстоўвае, каб ставіць калядныя ўпрыгажэнні дома і схадзіць разок-два на калядныя закупы.

## 2. Нацыянальная латарэя




Першы, так бы мовіць, «асаблівы» святочны дзень у Іспаніі – Дзень Нацыянальнай (каляднай) латарэі. Вядома, латарэя адбываецца цэлы год, у розных формах, але гэта – асаблівая менавіта настроем і падачай. Па-першае, ужо стала традыцыйнай рэкламная кампанія, якая падштурхоўвае іспанцаў да ўдзелу ў латарэі: гэта эмацыйныя ролікі з бліскучай рэжысурай, якія звычайна носяць і прыгожы мэсадж пра салідарнасць, надзею або чалавечую любоў. Сёлета мне асабліва спадабаўся фільмік пра тое, як медбрат падзяліўся білетам з жанчынай, хворай на анкалогію, якая не хацела набываць, бо «не да планаў на будучыню». А яшчэ пра пажылога спадара, які падзяліўся сваім білетам з былой жонкай сына – бо ўсё ж лічыць яе часткай сям'і. У нас традыцыя набываць білецікі на некалькіх чалавек (якія каштуюць па 20 еўра, калі цэлыя), дзяліцца з блізкімі і, калі пашанцуе, атрымаць прэмію разам.

Грошы каляднай латарэі не найбольшыя за год, але атмасфера – дакладна найлепшая. Конкурс транслюецца па дзяржаўным тэлебачанні (сем'і, якія вельмі любяць яго, устаюць рана, каб паглядзець). Ён цягнецца некалькі гадзін, і можна глядзець, як дзеці адной мадрыдскай школы, San Ildefonso, дастаюць шарыкі і спяваюць лічбы разам з прэміямі.

## 3. Добрая Ноч

Так называюць іспанцы Вігілію – бо гэта (зноў жа, традыцыйна) самая добрая і лагодная ноч года. Усё ж такі, паводле версіі каталіцкага касцёла, 24 снежня і ёсць ноччу нараджэнне Хрыста. Святкаванне выглядае так, як і шмат дзе: вялікая сямейная вячэра. Мала хто трымаецца абмежаванняў Адвенту, так што на стале можна пабачыць і морапрадукты, і мяса, і алкаголь, і што толькі можна.

## 4. Раство

Менш важная дата, чым Добрая Ноч/Вігілія, але свята ўсё адно. У маёй сям'і робім так: вячэра 24-га з маміным бокам, абед 25-га з татавым (прыязджаюць сваякі з Севільі і збіраемся ў дзядзькі ў вёсцы). У некаторых сем'ях дзеці і, калі пашанцуе, дарослыя атрымліваюць маленькі падарунак ад Санта Клаўса/Дзеда Мароза. Гэта даволі новы элемент – пра традыцыйны іспанскі дзень з падарункамі крыху далей.



## 5. Дзень Святых Нявінных

Вось гэта, напэўна, будзе для беларусаў асабліва цікава. У Іспаніі няма «дня дурня» 1 красавіка, а жартуем і тролім мы 28-га снежня, у гонар дзяцей, якіх забіў кароль Ірад у сваіх стараннях пазбавіцца ад Ісуса. Так, сур'ёзна. Самы традыцыйны жарт – гэта калі людзі рэжуць лялечкі з паперы, клеяць блізкім на спіну (весела назіраць, як доўга чалавек можа не заўважыць). Увечары па дзяржаўным тэлебачанні паказваюць спецыяльную перадачу з відэа, дзе весела падманваюць/троляць вядомых людзей. Гэта, канечне, рыхтуецца цэлы год. Людзі маюць магчымасць тэлефанаваць і ахвяраваць грошы на дабрачыннасць (звычайна грошы ідуць на



лячэнне хворых дзяцей, кожны год змагаюцца супраць розных хвароб). Мне асабіста вельмі падабаецца глядзець і, калі ёсць магчымасць, пару капеек і аддаць.



## 6. Старая Ноч

Добрая Ноч была добрай, бо Ісус нараджаецца. А Старая Ноч – гэта калі год ужо старэнькі, а значыцца, 31 снежня: ноч перад Новым годам. Гэта свята нашмат больш... энергічнае за Добрую Ноч. Звычайна людзі зноў вячэраюць з сям'ёй, а потым (асабліва моладзь) ходзяць на дыскатэку, ці на вечарынку, ці яшчэ куды заўгодна з сябрамі. Вядома ж, феерверкі ёсць, але самая дзіўная традыцыя – есці вінаград. А менавіта 12 штук – адну за кожны перазвон гадзінніка апоўначы. Традыцыя з'явілася, дарэчы, адносна позна. Недзе ў пачатку 20 стагоддзя вінаграду было зашмат, і нехта прыдумаў «вінаградзіны ўдачы» – каб прадаць больш. Вінаград можна есці дома пад тэлевізар або на галоўных плошчах гарадоў і вёсак, дзе можна сачыць за гадзіннікам жыўцом. Самае вялікае свята – на плошчы Puerta del Sol у Мадрыдзе.

## 7. Новы год

Першага студзеня для іспанцаў – дзень адпачынку і рэлаксу. Бо Старая Ноч дзікаядзікая. Гэта дзень, калі ядуць тое, што не даелі за мінулы тыдзень, устаюць даволі позна (або рана, як я стараюся, калі хочуць паглядзець навагодні канцэрт у Аўстрыі, які перадаюць па тэлебачанні). Я ніколі нічога не раблю. Амаль.



## 8. Ноч Трох Каралёў

Іспанскія калядныя святы не заканчваюцца 1 студзеня, не! А то прапусцілі б улюбёнае свята ўсіх іспанскіх дзяцей, без сумневаў! У ноч на 6 студзеня, паводле традыцыі, дайшлі тры мудрыя каралі да немаўляткі Ісуса, падарылі розную непатрэбшчыну – золата, фіміям і міру. (Бо памперсы і вопратку – не.) Ну а іспанскім дзецям (і дарослым) яны прыносяць самыя розныя падарункі. Або вугаль, калі не паводзілі сябе добра. У каралёў ва ўсіх гарадах і вёсках – свой парад 5 студзеня, а потым трэба пакідаць ваду вярблюдам (так-так, яны на вярблюдах) і крышачку ежы і аніс (гэта як салодкая гарэлка) – каралям. Асабліва традыцыйнымі з'яўляюцца поўныя слодычаў боты – дзеці ставяць самыя вялікія, лагічна.

Старога Новага года ў нас затое няма. Так што мне застаецца пажадаць усім чытачам «РГ» калядных цудаў і магічнага настрою на цэлы год!

Анхела ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка, доктар філасофіі ў галіне літаратуры
angeespi@ucm.es

# Як прайшла першая сустрэча юнацкай лігі бокса

**Шэсць хлапчукоў і дзяўчынка змагаюцца ў складзе каманды Гродзенскай вобласці за выхад у фінал нацыянальных спаборніцтваў юнацкай лігі бокса.**

У турніры ўдзельнічаюць зборныя ўсіх абласцей і каманда Мінска, якія будуць выходзіць на рынг па кругавой сістэме. У фінал выйдуць мацнейшыя, адзначаць і лепшых баксёраў спаборніцтваў.

За каманду Гродзеншчыны выступаюць сямёра выхаванцаў Астравецкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву, якія ўжо сустрэліся на рынгу з сапернікамі з Віцебскай вобласці. Упершыню гонар астравецкіх баксёраў абараняе дзяўчынка **Валерыя Дарашкевіч**. На першых спаборніцтвах яна выйграла бой.

Не пакінулі шансаў сапернікам таксама **Аляксандр Баруўка** і **Кірыл Рагавенка**. А вось **Арсеню Мялешку**, **Максіму Лянкевічу**, **Сямёну Сямашку** і **Аляксандру Ёдзіку** на гэты раз не пашанцавала – паядынкі закончыліся не на іх карысць.

**Паводле ostrovets.by.**



Фота ostrovets.by.

За каманду Гродзеншчыны выступаюць і сямёра выхаванцаў Астравецкай СДЮШАР.

## Вядомыя беларускія спартсмены сустрэнуцца з дзецьмі з інваліднасцю на абласной спартакіядзе ў Валожыне

Абласная акцыя «Навагодняя спартакіяда з чэмпіёнамі Міншчыны» пройдзе сёння на базе дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы Валожынскага раёна.

Мерапрыемства пачнецца ў 12:00. Свята збярэ каля 50 дзяцей з усяго сталічнага рэгіёна. З імі сустрэнуцца заслужаныя майстры спорту **Ігар Фартуна**, **Людміла Волчак**, **Антаніна Кошаль**. Прыедуць старшыня федэрацыі футбола Мінскай вобласці **Алег Чыкун**, дырэктар баскетбольнага клуба «Гарызонт» **Дзмітры Львовіч**, а таксама афіцыйная дэлегацыя Беларусі на летніх Алімпійскіх гульнях у Пекіне 2008 года.

Дзеці разам з гасцямі ўпрыгожаць ялінку спартыўнай атрыбутыкай, згуляюць у «Вясёлых хакеістаў», збяруць фразу «З Новым годам!», паўдзельнічаюць у іншых спаборніцтвах. Дапамогуць дзецям інструктары-метадысты.

Пасля праходжання ўсіх выпрабаванняў юных удзельнікаў узнагародзяць.

**Паводле belta.by.**

## На чэмпіянаце Еўропы па паўэрліфтынгу ашмянцы заваявалі сем медалёў

У літоўскім Каўнасе прайшоў чэмпіянат Еўропы па класічным паўэрліфтынгу.

У вагавой катэгорыі да 43 кілаграмаў сярод дзяўчат да 18 гадоў выступіла ашмянка **Лізавета Матарас**. Яна заваявала сярэбраны медаль у трохбор'і, саступіўшы саперніцы ўсяго толькі 500 грамаў. Таксама ў скарбонцы ў ашмянскай спартсменкі два малыя залатыя медалі: у станавай цязе і прысяданні са штангай і бронза – у жыме штангі лежачы. На еўрапейскім памосце юная спартсменка ўстанавіла два рэкорды Еўропы, перавысіўшы ранейшае дасягненне на цэлых 10 кг.

Па суме трох практыкаванняў атлетка выканала нарматыў майстра спорту Рэспублікі Беларусь, стаўшы самым маладым майстрам спорту, які жыве ў Ашмянах.

Вагавую катэгорыю да 66 кг сярод юніёраў (да 23 кг) прадставіў **Арцём Савельеў**. Ён заваяваў серабро ў жыме штангі лежачы, залатыя медалі ў прысяданні са штангай і ў трохбор'і. Таксама Арцём устанавіў два еўрапейскія рэкорды.

У адкрытай катэгорыі сярод мужчын у вазе да 83 кг на памост выйшаў тытулаваны спартсмен **Яўген Каўцэвіч**. Па суме трох практыкаванняў ён заняў дзясятае месца.

**Паводле osh.by.**

## «Ашмяны» грамяць «Метэор», «Смаргонь» згуляла ўнічыю з «Астраўцом»

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе прайшоў чацверты тур.

«Мядзведзі» са Смаргоні ў рамках абласнога першынства прымалі на сваёй пляцоўцы «Астравец». Па выніках сустрэчы пераможцу так і не змаглі вызначыць: матч скончыўся ўнічыю – 7:7.

«Ашмяны» перамагаюць з лікам 5:0 над «Метэорам» з Воранава. За каманду адзначыліся **Дзмітры Рыжко** (2 галы), **Максім Асінскі** (2 галы) і **Сяргей Супрановіч** (1 гол).

**Настасся УТКІНА.**

## Кубак чэмпіёна Беларусі па футболе прывезлі ў Ашмяны

У гэтым сезоне берасцейцы сталі чэмпіёнамі Беларусі па футболе.

Брэст стаў восьмым горадам-чэмпіёнам краіны па футболе. У дэбютным першынстве Беларусі не было роўных сталічнаму «Дынама». Затым чэмпіёнскі кубак бываў у Мазыры, Магілёве, Бабруйску, Гомелі, Салігорску. На працягу 15-ці сезонаў кубак даставаўся барысаўскаму БАТЭ.

Не засталіся ў баку ад чэмпіёнства і выхаванцы футбольнай акадэміі «Паўночны Захад». Дзякуючы начальніку каманды «Дынама-Брэст» **Івану Маліну** чэмпіёнскі кубак прывезлі ў Ашмяны. Хлопцы змаглі ўжывую ўбачыць галоўны футбольны трафей краіны.

**Паводле osh.by.**

## Футбалісткі са Смаргоні ўзялі серабро на абласных спаборніцтвах

У Гродне завяршыліся абласныя алімпійскія дні моладзі па футболе сярод дзяўчат 2003-2007 гадоў нараджэння.

**У спаборніцтвах прымалі ўдзел каманды з Гродна і Гродзенскага раёна, Шчучына, Навагрудка, Смаргоні, Дзятлава і Ліды.**

У першы гульнявы дзень смаргонская каманда атрымала дзве перамогі. З мінімальным лікам былі абыграныя футбалісткі «Нёмана». Гол у свой актыў запісала **Паліна Бурачэўская**. А таксама смаргонкі перамаглі дружыну з Гродзенскага раёна – 2:0. Абодва мячы на рахунку **Аляксандры Рыдзель**.

Другі дзень спаборніцтваў таксама аказаўся ўдалым для смаргонскай каманды. З разгромным лікам футбалісткі абыгралі Дзятлаўскую ДЮСШ – 6:1. Тройчы забіла мяч у вароты саперніц **Вікторыя Іванова**. Па адным мячы забілі **Паліна Рухлевіч**, **Дар'я Ількевіч** і **Паліна Бурачэўская**. З такім жа лікам смаргонскі абыгралі і футбалістак з Навагрудка. **Дар'я Ількевіч** забіла тры мячы. Па адным голе аформілі **Паліна Бурачэўская**, **Паліна Сульжыцкая** і **Паліна Рухлевіч**.

У заключны дзень, трэці, абедзве гульні каманда са Смаргоні згуляла ўнічыю: Смаргонь – Шчучын – 0:0, Смаргонь – Ліда – 1:1. Адзіны мяч у вароты лідчанак забіла **Вікторыя Іванова**.

Па выніках спаборніцтваў каманда Смаргонскай ДЮСШ стала сярэбраным прызёрам алімпійскіх гульняў Гродзенскай вобласці па футболе.

**Паводле shliah.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Спецыяліст у рамястве.
5. Гульня, пацеха.
6. Гэта найменне дадавалі да назвы значных касцёлаў.
10. Вялікі фігурны падсвечнік для некалькіх свечак.
12. З прыемным на выгляд тварам, прывабны.
13. Кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў.
14. Восьмы месяц года.
16. Беларускі горад, у якім размешчаны помнік архітэктуры барока 18 стагоддзя касцёл Карла Барамеуша.
18. Той, хто назірае за работай машын і правільным іх выкарыстаннем.
21. Прыкметныя змены.
22. Грашовае або іншае матэрыяльнае заахвочванне як узнагарода за поспехі, заслугі.
23. Скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў.
25. Пра каго кажуць: дзе гэта птушка вядзецца, там шчаслівае месца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Гэта таварыства Адам Міцкевіч і Тамаш Зан стварылі па масонскім узоры. Пасля яно пераўтварылася ў нацыянальна-патрыятычную арганізацыю.
2. Гэта слова ў перакладзе з лацінскай мовы адзначае «атрута».
4. Род твораў у галіне мастацтва, які характарызуецца пэўнымі ўласцівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі.
7. Граматычная катэгорыя, якая выражае адносіны зместу выказвання да рэчаіснасці і перадаецца формамі ладу дзеяслова, інтанацыяй, пабочнымі словамі.
8. Галоўная страва беларускага каляднага стала.
9. У гэтай вёсцы Сенненскага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся Пётр Машэраў.
11. Беларускае народнае хрысціянскае свята дахрысціянскага паходжання.
12. Белая пажыўная вадкасць, якая вылучаецца груднымі залозамі.
15. Падаючая зорка.
17. Пэўным чынам прыгатаваныя для яды прадукты харчавання.
19. Тое, што неабходна выканаць, вырашыць.
20. Гэты ледзяны спадарожнік Юпітэра мае самую роўную паверхню ў Сонечнай сістэме.
23. Спакойнае, нічым не засмучанае, шчаслівае існаванне.
24. Страта ўспамінаў.
26. Прылада, якой сякуць і склюдуюць, у выглядзе насаджанага на тапарышча шырокага прадаўгаватага кліна з лязом з аднаго боку і абухом з другога.
27. Адзінае млекакормячае, якое не ўмее скакаць.



## Адказы на крыжаванку з №50

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Дужа. 3. Рада. 4. Разварот. 7. Аборт. 10. Равеснік. 12. Экстаз. 13. Каза. 14. Кізяк. 15. Аптэка. 21. Розум. 24. Абаранак. 25. Клей.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Дыплом. 2. Какава. 5. Кабінет. 6. Калона. 8. Драпіна. 9. Шэкспір. 11. Рэктар. 16. Тлушч. 17. Зюзя. 18. Саксонія. 19. Дэсант. 20. Кіеў. 22. Адзінота. 23. Дэфензіва. 24. Арсенал.

## ● ГАРАСКОП НА 20-26 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Пасля выхадных вас чакаюць важныя сустрэчы і нават спатканні. Яны вядуць за сабой перамены ў жыцці. Добры час, каб накапіць грошай. У выхадныя пачніце рыхтаваць падарункі для самых блізкіх.



**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд для вас не проста спрыяльны, а шчаслівы. Адзінае, што спатрэбіцца, – займацца побытавымі пытаннямі. На гэта абавязкова вылаткуйце час і пастарайцеся стварыць у доме ўтульнасць. Дарыце іншым пазітыўны настрой.



**БЛІЗНЯТЫ.** Больш за ўсё вам патрэбны адпачынак. Калі ёсць магчымасць, перакладзіце частку клопатаў на іншых. Плануйце навагоднія святы – а яны будуць для вас асаблівымі. Удалымі будуць перамены ў знешнасці.



**РАК.** Падзея, якой вы баяліся апошні час, усё ж адбудзецца. Пастаўцеся да яе спакойна. На працы будзе столькі работы, што на дамашнія клопаты не застанецца рэсурсаў. Падумайце, як арганізаваць іншых на патрэбныя вам справы.



**ЛЕЎ.** Калі нейкі час у вас была чорная паласа, то цяпер надыходзіць спрыяльны перыяд. Самы час адпачыць. Тым больш, што пільнай працы будзе няшмат, тое-сёе можна і адкласці. Лепш часцей сустракайцеся з сябрамі.



**ДЗЕВА.** Растаўце прыярытэты, каб усё патрэбнае паспець закончыць у час. Калі ёсць людзі, якіх вы пакрыўдзілі, рашыцеся папрасіць прабачэння. Выхадныя правядзіце так, як марылі. Гэта дапаможа назапасіць энергію на некалькі тыдняў наперад.



**ШАЛІ.** Фінансавыя пытанні даручыце вырашыць чалавеку, абазнанаму ў тэме. Дома могуць узнікнуць побытавыя складанасці. Вы захочаце з усім справіцца самастойна, але лепш папрасіць дапамогі. Магчымая цікавая сустрэча, але пастарайцеся як мага больш даведацца пра гэтага чалавека.



**СКАРПІЁН.** Калі ў вас ёсць незавершаныя справы, тэрмінова гэта выпраўляйце. Інакш яны будуць накоплівацца, нібы снежны ком. Адносіны са сваякамі могуць абвастрыцца. Трымайцеся на адлегласці ад спрэчак.



**СТРАЛЕЦ.** Харошы перыяд, каб займацца спортам, асабліва для навічкоў. На працы могуць быць цікавыя праекты. Людзям сталага ўзросту варта быць асцярожнымі, каб захаваць здароўе. У канцы тыдня займайцеся толькі прыемнымі клопатамі.



**КАЗЯРОГ.** Пастарайцеся пазбягаць канфліктаў з партнёрам. А вось на працы могуць з'явіцца новыя перспектыўныя праекты. Каб атрымаць магчымасць іх рэалізаваць, пакажыце сябе ў найлепшым святле.



**ВАДАЛЕЙ.** У бліжэйшы час вас чакае натхненне і паток захапляльных ідэй. Дзеці будуць чакаць ад вас увагі і праведзенага разам часу. Пастарайцеся не абмяркоўваць асабістае жыццё. Гэта можа спраВакаваць непажаданыя плёткі.



**РЫБЫ.** У бліжэйшыя дні вас могуць чакаць сюрпрызы ад блізкіх людзей. На жаль, не ўсе яны вам будуць даспадобы. Магчыма, да вас паступяць грошы. І гэта ў выніку дапаможа зрабіць нятанную пакупку.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | | 5 | 1 | | 4 | |
| | | | | 9 | 6 | | 7 | 8 |
| 2 | | | | | | 5 | 9 | |
| | 3 | | 9 | | | | | 4 |
| 4 | | | 6 | | 3 | | | 2 |
| 1 | | | 8 | | | | | 6 |
| | | 8 | | | | | 2 | 7 |
| | 2 | 4 | | | | 1 | | |
| 7 | 5 | | | | | 3 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# У Вілейцы выступяць Ігар Палынскі з гурта Sumarok і Максім Іўкін з «Балцкага Субстрату»

ВІЛЕЙКА

**Калядны канцэрт беларускіх музыкантаў ладзяць у Вілейцы 28 снежня.**

Гурт Sumarok, які мае полацкі карані, сёлета адзначыў 10-годдзе. Калектыў выконвае аўтарскія песні і кампазіцыі на вершы беларускіх і замежных паэтаў. Лідар гурта **Ігар Палынскі**, які працуе тэхнічным рэдактарам «Рэгіянальнай газеты», абяцае прадставіць праграму з найлепшых песень, якія былі створаныя за гэты час.

Акустычны фолк-блюз «Балцкага Субстрату» бярэ свае вытокі з узаемаперасячэння багатай акадэмічнай школы Беларусі, сучаснай паэзіі і ўнікальнай беларускай аўтэнтыкі. Аўтар і кіраўнік праекта, гітара і голас – даследчык, кампазітар і спявак **Максім Іўкін**.

**Імпрэза пройдзе па вуліцы Партызанскай, 45-а. Пачатак а 18-й. Уваход вольны, падзяка музыкантам у капялюш вітаецца.**

Дарэчы, 27 снежня кватэрнік з удзелам Ігара Палынскага і Максіма Іўкіна адбудзецца і ў Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**






## Чытайце праз тыдзень:

- У Вілейцы завяршыўся праект «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай». Пачытайце, як ён паўплываў на горад і жыццё канкрэтных жыхароў.

## 21 снежня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -19,3°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +7,7°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17,6 мм у 1982 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Завяршаецца падпіска на першае паўгоддзе 2020 года. Паспяшайцецеся!**



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
- на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў;
- на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Ці трэба беларусам захоўваць гісторыка-культурную спадчыну?



**Аляксей Ліс, прадпрымальнік, Краснае:**

– Дзіўнае пытанне. Гэта як запытацца ў будаўніка: «Ці трэба вам цэмент?» Чытаю кнігу «Красненскія таямніцы» і бяццам адкрываю для сябе новы свет. Амаль 25 гадоў хадзіў каля аднаго месца і бачыў камяні, а гэта помнік, ад якога засталіся толькі руіны.



**Дар'я Галумбеўская, харэограф, Вілейка:**

– Канешне, трэба. Што за пытанні, гэта нашае ўсё. Хто мы без сваёй гісторыі і культуры? Наша гісторыя цікавая і заслугоўвае ўвагі! А пра культуру дык увогуле няма слоў, адны абрады чаго вартыя, не гаворачы пра адзенне і архітэктуру.



**Марына Буйневіч, мерчандайзер, Маладзечна:**

– Трэба захоўваць, заўсёды трэба абапірацца на памылкі мінулага, каб не рабіць іх у будучыні. А гісторыя нам нагадвае пра гэта.



**Аляксей Жахавец, слесар, Маладзечна:**

– Зразумела, што трэба. Шкада, што нашай дзяржаве да гэтага няма клопату, а калі нешта і робіць, то гэта нейкая «папса». Рэканструкцыяй займаюцца людзі, далёкія ад гэтай тэмы. Помнікі не тое, што не захоўваюцца, а нават разбураюцца.



**Анастасія Скрыцкая, гаспадыня, Маладзечна:**

– Гэта здабытак нашага народа, які мы таксама мусім захаваць і перадаць нашым дзецям.



**Алеся Маліноўская, метадыст у РЦК, Ашмяны:**

– Гісторыка-культурная спадчына – гэта мост паміж мінулым і цяперашнім. Гэта багацце нацыі, якім мы павінны ганарыцца. У нас абыякава адносяцца да яе, а гэта такая падстава для развіцця турызму, калі правільна ўсё піярыць. Ды і без мінулага няма будучыні.



**Кацярына Котава, юрысконсульт, Маладзечна:**

– Лічу, што гэта абавязак беларусаў. На жаль, сёння няма сродкаў на аднаўленне нашай спадчыны. Сям'ёй штогод наведваем гістарычныя месцы Беларусі, каб дзеткі ведалі гісторыю сваёй краіны.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1286) 20.12.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2077. Падпісана ў друк у 9.00 19.12.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.